# К КУЛЬТУРА ІНФАРМУЕ

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА № 30 (292) 2 – 8 жніўня 1997 г. КОШТ 2000 РУБЛЁЎ








● Стар. 4



● Стар. 10



● Стар. 4

П
ПАДЗЕІ
ПРАБЛЕМЫ
ПРАГРАМЫ
ПРАЕКТЫ

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

жнівень

● Стар. 2–3

К Т
КІНО
ТЭАТР
№16

● Стар. 8–9



● Стар. 8

ЛІПЕНЬ–ЖНІВЕНЬ
ПРАЗ ПРЫЗМУ "БАГЕМНАГА" ШКЛА:

● Стар. 10–11

А
АПРАБАЦЫІ
АВАЦЫІ
АНТУРАЖ
АЖЫЯТАЖ

● Стар. 9





● Стар. 9

● Стар. 11





● Стар. 5



● Стар. 2–3



● Стар. 12

## "...АДНО, СВАЁ НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ"

4 жніўня народнаму пісьменніку Беларусі Янку Брылю спаўняецца 80 гадоў

Захацелася праверыць даўняе, яшчэ дзіцячае ўражанне ад прозы Янкі Брыля. Узяла кніжку выбраных твораў, якая выйшла ў Дзяржаўным выдавецтве БССР яшчэ ў 1957 годзе, каб пагартаць, ды так і чытала да позняга вечара, нанова сустрэўшыся з Данікам Сівым ("Сіроцкі хлеб"), маленькай кучаравай дзяўчынкай Асяй ("Зялёная школа"), Паўлюком з апавядання "Мой зямляк", Гануліным Толікам з аповесці "На Быстранцы". І з многімі іншымі героямі, якія прайшлі праз усе сорак гадоў нашай пасляваеннай беларускай літаратуры і ўсё яшчэ жывуць у яе прасторы, хаця пазней і, дзякуй Богу, пасюль з'яўляюцца ў пісьменніка новыя кнігі, новыя героі.

Шчыра кажучы, недзе ў глыбіні душы было нейкае апасенне, што яны, з даўніх гадоў блізкія і любімыя персанажы, здадуцца сёння як бы прыцярушанымі пылам часу, выцвілымі, як на старых фотакартках. Жыццё вакол, нават ужо на маім вяку, непазнавальна змянілася, і, нягледзячы на тое, што дзеецца, на сённяшнія ідэалы, ці, дакладней, на адсутнасць іх, не можаш не думаць пра тое, а што ўвогуле станецца з літаратурай, з яе вялікасцю Кнігай. Шо ж тычыць прозы Янкі Брыля, дык шмат хто з крытыкаў, помніцца, асабліва напіраў на яе сацыяльныя аспекты — маўляў, "асноўная тэма іх (выбраных твораў. — **В.І.**), як і ўсёй творчасці Янкі Брыля, — гэта жыццё працоўных сялян Заходняй Беларусі". А яшчэ — "подзвігі савецкіх людзей у партызанскай барацьбе", а яшчэ — "будаўніцтва і станаўленне калгасаў у Заходняй Беларусі".

Але вось жа чытаю і чытаю, і даўняе зачараванне не праходзіць... Хіба Марыля, што заўчасна памерла ад цяжкіх родаў, — гэта толькі сацыяльны канфлікт паміж багаццем і беднасцю, праўдай і няпраўдай? Гэтая жаночая душа, якая хацела шчасця і кахання, абламала крылы аб каменную сцяну тупога раўнадушша і нелюбові. І маленькая Ася, якая знайшла свайго бацьку — гэта той жа, вечны покліч у свет дабрыні, покліч да блізкага чалавека, які нясецца праз жахі жыцця і аберагае. Якраз так адчувала я сябе шмат гадоў назад, калі праз усю Беларусь вёз мяне на Гродзеншчыну мой бацька. Гэтак жа "мармытаў сонны лес, мармытала вада"...

*(Заканчэнне на стар. 4.)*

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

# ЗАКОН І ВАКОЛ ЯГО

***У** цывілізаваных краінах на ўсе складаныя пытанні грамадства, як вядома, павінна даваць адказ заканадаўства. Прававая база ў дзяржавах з развітой дэмакратыяй назапашвалася і шліфавалася на працягу многіх гадоў. Законы там маюць доўгатэрміновы характар. Кожны артыкул добра прадуманы ў юрыдычным сэнсе і адпавядае міжнародным стандартам, што надае грамадству стабільнасць.*

***Што карыснага назапашана ў нашым нацыянальным заканадаўстве, якое тычыцца праблем культуры? Як яно садзейнічае ахове і развіццю духоўных і матэрыяльных каштоўнасцяў беларускага народа?***

***На гэтыя пытанні адказвае намеснік старшыні Камісіі па адукацыі, культуры і навукова-тэхнічным прагрэсе Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Мікалай ШАЎЦОЎ.***

**— Па першае, спадар Шаўцоў, раскажыце пра сябе, пра тое, як вы прыйшлі ў культуру?**

— Родам я з Ельскага раёна Гомельскай вобласці. У дзіцячыя і юнацкія гады захапляўся кіно. Мог без перапынку глядзець "Чапаева", нашы беларускія фільмы пра вайну, напрыклад "Дзяўчынка шукае бацьку", які, дарэчы, здымаўся на Гомельшчыне. Па вечарах дапамагаў у мясцовым клубе кінамеханіку рабіць перамотку кінастужак. З часам засвоіў апаратуру і навучыўся самастойна дэманстраваць фільмы.

Потым лёс распарадзіўся наступным чынам. Пасля службы ў арміі, гэта было ў 70-я гады, я працаваў дырэктарам Дома культуры ў эксперыментальна-паказальным пасёлку Зашыр'е Ельскага раёна, які тады з'яўляўся камсамольскай будоўляй. Скончыў рэжысёрскае аддзяленне Ленінградскага інстытута культуры, дзе вучыўся ў выдатных выкладчыкаў — Эльміра Віктаравіча Вяршкоўскага і Дзмітрыя Міхайлавіча Генкіна, вядомых пастаноўкамі Маскоўскай Алімпіяды, іншымі тэатралізаванымі святамі.

У 80-я гады я працаваў загадчыкам сектара культуры Гомельскага абласнога камітэта партыі. Пасля чарнобыльскай аварыі быў накіраваны ў Нароўлю на пасаду першага сакратара райкома партыі.

У Нароўлі прыгадваюцца першыя рабочыя нарады. Запрошаныя кіраўнікі прадпрыемстваў і гаспадарак чакалі вырашэння бягучых пытанняў, а я нечакана для ўсіх павёў гаворку пра наладжванне Купальскага свята, выкарыстоўваючы мясцовыя традыцыі. Прыемна зазначыць, мая ініцыятыва знайшла падтрымку і Купалле на вялікім уздыме было праведзена на беразе блакітнай прыгажуні Прыпяці. Разам з нараўлянцамі ў свяце бралі ўдзел госці з Гомеля і суседняй Украіны.

Неўзабаве ў Нароўлі зрабілася традыцыяй — наладжваць розныя тэатралізаваныя святы.

У 1995 годзе разам з украінскімі сябрамі пабудавалі манумент дружбы славянскіх народаў — беларусаў і ўкраінцаў, які быў адкрыты напярэдадні 50-годдзя Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. А ў маі гэтага года на памежжы Беларусі і Украіны прайшло вялікае рэспубліканскае свята, прысвечанае дружбе славянскіх народаў і 200-годдзю ўстанаўлення памятнага знака на мяжы Мінскай, Падольскай і Валынскай губерняў.



**— Наколькі сур'ёзна адбіліся наступствы чарнобыльскай катастрофы і эканамічныя праблемы апошняга дзесяцігоддзя на стане культуры Гомельшчыны?**

— Пра гэта шмат было сказана раней, нямала гаворыцца і зараз. Непакоіць лёс помнікаў гісторыі і архітэктуры, якія апынуліся ў забруджанай зоне, назіраецца тэндэнцыя змяншэння колькасці бібліятэк, дамоў культуры, кінапракатных установак, музычных і агульнаадукацыйных беларускіх школ. Хвалюе і тое, што і па сённяшні дзень няма добрай навукова абгрунтаванай праграмы па ліквідацыі наступстваў чарнобыльскай навалы і прадуманай яе рэалізацыі. Прывяду адзін толькі прыклад: з аднаго боку шашы аруць, а з другога гэта не дазволена, бо зямля ідзе на адчужэнне. Вы можаце запытацца: чаму так атрымліваецца? Нельга, каб і невялікі кавалачак глебы засейваўся, калі ён дасканала не правераны на наяўнасць радыяцыі.

Жыхароў вобласці, кажучы мякка, здзіўляе той факт, што многія суайчыннікі атрымалі статус ліквідатараў, нават не пабываўшы на Гомельшчыне. Я адмовіўся ад ліквідатарскіх ільгот таму, што людзі, якія больш за мяне пацярпелі, працягваюць жыць і працаваць на тэрыторыі, якая знаходзіцца не вельмі далёка ад Чарнобыльскай АЭС. Шмат пытанняў не вырашана і дасюль. Усё гэта, безумоўна, не лепшым чынам адбіваецца на стане культурнай сферы. І, тым не менш, вяскоўцы ў гэтых мясцінах па-ранейшаму з задавальненнем прыходзяць не толькі па вечарах у выхадныя, але і сярод дня, каб паглядзець новую прывезеную кінастужку. Гэта не можа не ўсяляць пэўнага аптымізму.

Калі я вылучаўся ў дэпутаты беларускага парламента ад калектыву кандытарскай фабрыкі "Чырвоны мазыранін", я ставіў на мэце не словамі, а менавіта справай дапамагаць вырашаць тыя праблемы, якіх шмат не толькі на Гомельшчыне, але і па ўсёй Беларусі.

**— Якія законы напрацаваны вашай камісіяй, якія ствараюцца зараз?**

— Мы працягваем работу нашых папярэднікаў па напрацоўцы заканадаўчай базы ў галіне культуры. Толькі за мінулы год парламент прыняў вельмі патрэбныя законы аб аўтарскім праве і сумежных правах, аб музеях і музейнай справе, у першым чытанні ўхваліў Закон аб творчых саюзах. Напрацоўваюцца законапраекты аб тэатры і канцэртных арганізацыях, аб кінематаграфічнай дзейнасці, народных промыслах і рамёствах.

Былі ўнесены змяненні і дапаўненні ў закон аб адміністрацыйных правапарушэннях, якія тычацца архіўнага справаводства. Мы, на жаль, з'явіліся сведкамі негатыўных момантаў, калі давалі запыт у Нацыянальны архіў для атрымання матэрыялаў 1991 года. Дзіўна, але факт, у дзяржаўнай установе не знайшлося гэтых матэрыялаў і іншых дакументаў, якія прымаў Вярхоўны Савет. Такім вось чынам з-за чыёйсьці безадказнасці губляецца гісторыя беларускага народа.

**— Патлумачце падрабязней, што сабой уяўляе Закон аб музейнай справе.**

— Па-першае, закон дазволіць павялічыць колькасць наведнікаў гэтых устаноў. У нарматыўным дакуменце запісана, што студэнты маюць права бясплатнага ўваходу ў музеі. Па-другое, калекцыянеры атрымалі дазвол адкрываць прыватныя музеі, што значна пашырыць колькасць музейных устаноў, якіх у Беларусі ўсяго толькі 130. Мы здолеем нарэшце ўбачыць карэліцкія габелены, слуцкія паясы, нашу славутую кафлю і старадрукі не ў Польшчы, Расіі, Украіне або Літве, а на іх радзіме — у Беларусі.

Прававы дакумент дакладна рэгламентуе парадак стварэння новага музея, рэгістрацыі ягоных экспанатаў, іншыя моманты.

**— Якія з зацверджаных парламентам прававых дакументаў, на ваш погляд, найбольш важныя і дзейсныя? Прыняцце якіх неадкладнае?**

— Я лічу, што прыняты ў мінулым годзе аднагалосна Вярхоўным Саветам трынаццатага склікання Закон аб творчых саюзах павінен падтрымаць гэтыя арганізацыі, якія шмат карыснага зрабілі і робяць дзеля развіцця нашай культуры. Парламент накіраваў дакумент на экспертызу ў Адміністрацыю Прэзідэнта. Кіраўнік дзяржавы, азнаёміўшыся з праблемамі, якія даводзіцца пераадольваць творчым саюзам, падрыхтаваў тэрміновы ўказ аб прадастаўленні ім ільготаў. Пасля вынясення закона на сесію ў другім чытанні парламент павінен зацвердзіць яго канчаткова.

Не менш значным з'яўляецца закон аб аўтарскіх і сумежных правах, які дазваляе аўтару адстойваць свае правы на інтэлектуальную ўласнасць.

Зараз наша камісія сумесна з кінематаграфістамі працуе над Законам аб кінематаграфічнай дзейнасці ў Рэспубліцы Беларусь.

Таксама, на наш погляд, важным з'яўляецца стварэнне спрыяльных умоў з боку дзяржавы для тых, хто імкнецца аказваць падтрымку культуры, каго раней называлі мецэнатамі або фундатарамі і каго цяпер завуць спонсарамі. Наша камісія ўнесла на гэты конт свае прапановы ў Падаткавы кодэкс, які ствараецца.

**— І апошняе: ці мае Рэспубліка Беларусь праграму культурнага развіцця, якая з'яўляецца, як вядома, падмуркам эканомікі і палітыкі, усяго, на чым мацуецца грамадства і дзяржава?**

— Так, такая праграма зараз ствараецца. Над канцэпцыяй культурнага развіцця па ўсіх накірунках працуюць наша камісія, Міністэртсва культуры, Інстытут праблем культуры. Зразумела, што ніводная краіна, не маючы такой стратэгіі, не ў стане бачыць перспектыву свойго руху ў будучыню, а таксама ўдасканальваць мастацтва і ў цэлым сваю культуру.

Заўважце, колькі зараз нечакана выявілася праблем, якія ляжаць на паверхні і непасрэдна звязаны з агульным станам культуры. Нават узяць тых жа гандляроў семачкамі і шматлікіх спажыўцоў гэтага непрывабнага тавару ў тым выглядзе, у якім ім гандлююць. А прыхільнікі моцных напояў, якія распіваюць гарэлку ў скверах раніцай і ўвечары, ці аматары піва, што п'юць яго нават у метрапалітэне? Бруд у дварах і пад'ездах, у іншых месцах грамадскага карыстання. Нецэнзурная лаянка...

Для выкаранення бескультур'я патрэбны дзейсныя законы і механізмы іх прымянення, патрэбна доўгатэрміновая культурная праграма.

Вядома таксама, што асноўным падмуркам культуры кожнага народа з'яўляецца стан нацыянальнай школы — і гэта павінна ўсведамляць не толькі інтэлігенцыя, але і кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь. Менавіта на гэтую і іншыя высакародныя мэты накіравана праграма культурнага развіцця беларускага народа.

**Альжбета ВАСІЛЕЎСКАЯ**

**У** кожнай краіне — свае культурныя традыцыі. У Кітаі ядуць палачкамі, у Японіі кланяюцца пры сустрэчах, у Беларусі ходзяць у госці з бутэлькай. Але і сёння захоўваецца ў свеце адзін стэрэатып, агульны для ўсіх часоў і народаў: жанчына ў грамадстве адсунута на другую, у лепшым выпадку, ролю. Ёй значна складаней, чым мужчыне, атрымаць доступ да ўлады, фінансаў, прэстыжу і ўвогуле захаваць свае правы.

Пра прававы аспект жанчын у постсацыялістычным грамадстве і адпаведным яму культурным традыцыям казалася на семінары, які адбыўся ў Мінску. Семінар арганізавалі арганізацыя жанчын "Усход—Захад", праваабарончая кааліцыя "Усход—Усход" і Беларуская асацыяцыя універсітэцкіх жанчын.

Па меркаванні прэзідэнта асацыяцыі Алены Гапавай беларуская нацыянальная культура сфарміравана такім чынам, што жанчыне застаецца толькі роля маці і гаспадыні. Ніхто не чакае ад жанчыны, што яна захоча стаць прэзідэнтам кампаніі ці краіны. А калі ў нейкай жанчыны і з'явяцца падобныя амбіцыі, то амаль напэўна яны не будуць рэалізаваны. Грамадская думка лічыць, што справа жанчыны — мыць посуд. І жанчыны яго старанна мыюць. Яны маюць 2—3% сваіх прадстаўнікоў у парламенце, і таму іх памкненні няма каму лабіраваць. Праўда, часам на палітычным алімпе прамільгне істота ў спадніцы, але мыць посуд ёй усё роўна даводзіцца, а вось ад мужчыны-палітыка падобных учынкаў ніхто не чакае.

Але пытанне пра ўладу толькі суправаджала асноўную тэму семінара — гвалт над жанчынай, у тым ліку і гвалт у сям'і.

Колькі беларускіх жанчын у жаху чакае з'яўлення п'янага мужа? Колькі жанчын ініцыюе развод, таму што ім надакучылі фізічныя здзекі над імі? Такой статыстыкі ў нас няма, як няма яе і ў чатырох усходнееўрапейскіх краінах (Венгрыі, Польшчы, Румыніі, Расіі), дзе праводзіла даследаванне амерыканская ўдзельніца семінара Ізабэль Маркус.

Прафесар права, Ізабэль Маркус не толькі выкладае, але і праводзіць практычныя заняткі з мужчынамі, якія б'юць сваіх жонак. Заняткі платныя, але альтэрнатыва для хуліганаў — турма. Па амерыканскай статыстыцы, прыкладна трэцюю частку жанчын мужчыны білі альбо гвалтавалі.

Як заўважыла спадарыня Маркус, мужчыны, якія праходзяць цыкл перавыхавання, спрабуюць мінімізаваць вынікі сваіх учынкаў. Пры гэтым галоўнае апраўданне "сямейных баксёраў" (так называюць у Амерыцы тых мужчын, што любяць у сям'і махаць кулакамі) — яна мяне справакавала! Гэта значыць, што жонка паводзіла сябе не так, як павін-

***М** не, як кіраўніку факультэта псіхалагічнага кансультавання "Акварыуніверсітэта", даводзіцца адказваць на разнастайныя пытанні, якія востра паўстаюць у грамадстве. Цыкл сваіх занатаваных гутарак з людзьмі я вырашыў распачаць менавіта гэтай тэмай. Актуальнасць яе не трэба тлумачыць.*

*Мараль і права — дзве супрацьлеглыя катэгорыі. Увогуле, гэтыя дзве тэмы выпалі з поля бачання сучаснага чалавека цалкам. Калі ўзнікае сур'ёзная сітуацыя, калі ўзнікае сур'ёзная праблема, чалавек заўсёды выбірае, як яму дзейнічаць: па сумленні ці па законе. У пэўным сэнсе мараль і закон — гэта апазіцыя. Усведамляючы гэтую апазіцыю, чалавек можа зарыентавацца сам. Я вызначаю гэтую апазіцыю вельмі проста. Закон — гэта тое, чаго нельга. Мараль — гэта тое, што падказвае чалавеку сумленне. Гэтая апазіцыя паміж страхам перад законам і ўнутраным сардэчным памкненнем вельмі моцная і істотная для кожнага чалавека.*

**Канстанцін СЯЛЬЧОНАК**

## З гутарак-кансультацый

**— Канстанцін Уладзіміравіч, а як вы лічыце, мараль гэта тое, што закладзена кімсьці ў чалавеку ад пачатку, ці тое, што дадзена яму звыш?**

— Я ўжо перастаў задавацца пытаннем — адкуль што закладзена? Гэта нагадвае размовы пра мінулыя жыцці. Хоць тут ёсць сапраўды вялікая праблема. У нас вельмі легкаважна ставяцца да фарміравання маральнай пазіцыі. Лічаць гэта механістычнай справай, нечым накшталт камп'ютэрнага праграмавання. Але сумленне вырастае ў чалавеку па нейкіх сваіх законах. Мы не можам пасадзіць у сэрца чалавека парастак сумлення, мы можам толькі дапамагчы яму вырасці. У гэтым і ёсць загадка педагогікі. Адказ на гэтую загадку дапамог бы вырашыць праблему правапарушэнняў у цэлым, як і ўсе астатнія сацыяльныя праблемы. На жаль, людзі гэта не разумеюць.

Існуе адна непамыснасць, чыста псіхалагічнага зместу, якая легла ў аснову фарміравання сучаснага заходняга грамадства спажывання. У чалавека ёсць патрэба, а яшчэ ёсць ягонае "хачу". Гэта зусім розныя рэчы. Класічны прыклад — біялагічная рэакцыя голаду. Голад — гэта адно, а апетыт — зусім іншае. Часта чалавек сыты, але з прагай глядзіць на чарговае суфле. Менавіта выхаванне пачуцця меры, прапорцыі, такту і ёсць задача педагогікі сумлення. Чалавеку не вельмі шмат патрэбна. Выдатны акцёр Аляксандр Філіпенка неяк заўважыў, што першасна каштоўныя рэчы — сонца, хлеб, каханне, спакой — вельмі танныя, яны мала каштуюць. А вось калі чалавек імкнецца да ілюзорных каштоўнасцяў, яму гэта дорага абыходзіцца. На самой справе чалавеку трэба вельмі няшмат. Я лічу, што многія сацыяльныя інстытуты псуюць людзей, правакуюць на "непатрэбныя патрэбы". І таму неабходна пачынаць з маленства абмяркоўваць гэтую тэму. Каб мы гэтак заўсёды рабілі, то чалавек некалі зразумеў бы, што ў яго ёсць усё, што яму патрэбна, а астатняе яму нескладана напрацаваць.

**— На маю думку, гістарычна ў чалавека заўсёды было жаданне спажываць звыш меры, мець тое, чаго не мае іншы. Менавіта з гэтага жадання і разгортвалася цывілізацыя.**

# ЖАНЧЫНЫ І ЎЛАДА

на была паводзіць з гледзішча мужчыны. "Але вы кахаеце сваю жонку?" — пыталася Ізабэль Маркус і звычайна чула станоўчы адказ.

— Дык чаму ж вы яе б'яце?

— Каб даць жонцы ўрок, каб яна ведала сваё месца!

І на Захадзе, і на праваслаўным Усходзе традыцыйна змякчаючымі абставінамі для мужчын-садыстаў лічыўся алкаголь. Але Ізабэль Маркус перакананa: мужчыны б'юць жонак не таму, што трапляюць у стан афекту з-за гарэлкі ці наркотыкаў, а таму што хатні гвалт — рацыянальны і прагматычны спосаб кантраляваць паводзіны жанчыны.

Ва ўсіх даследаваных краінах Усходняй Еўропы прыкладна трэцяя частка разводаў адбываецца з-за гвалту ў сям'і. У Расіі гэтая лічба яшчэ больш высокая — ад 50 да 65 працэнтаў. Паліцыя актыўна ўмешваецца ў сямейныя канфлікты, калі справа ідзе пра жыццё і смерць, а калі муж і жонка толькі сварацца, то іх спрабуюць памірыць і ахвяра застаецца сам-насам у кватэры з тым, хто з яе здзекаваўся. Добра, калі мужчына сапраўды раскаяўся, прайшоў курс у псіхолага, купіў жонцы кветак і пачаў новае жыццё. Значна горш, калі ён зноў вярнуўся дахаты нецвярозы і пачаў выказваць сваю злосць за неатрыманую зарплату. На жаль, жанчына не можа сказаць: "Мой дом — мая крэпасць". Каб эфектыўна вырашаць сямейныя канфлікты, патрэбны кваліфікаваныя паліцэйскія, сацыяльныя псіхолагі, дактары — напрацаваная сістэма дапамогі, якая ёсць у ЗША, але практычна адсутнічае ва Усходняй Еўропе. Яшчэ ў большай ступені неабходны кваліфікаваныя спецыялісты, калі размова ідзе пра гвалт.

Па сведчаннях беларускіх сексапатолагаў, мноства згвалтаванняў у нашай краіне застаюцца невыяўленымі, стандартнай стала сітуацыя, калі жанчына спачатку падае заяву, што яе згвалтавалі, а потым гэтую заяву забірае назад. Чаму жанчыны так робяць? Таму, што ў іх няма гонару? Ці яны хлусяць, а потым адмаўляюцца ад уласнай хлусні? Калі справа сапраўды даходзіць да суда, то адвакату супрацьлеглага боку нічога не каштуе абвінаваціць ахвяру ў тым, што яна прастытутка або сама ва ўсім вінаватая, ці ўрэшце заявіць, што жанчына з уласнага жадання справакавала гвалтаўніка: прыйшла да яго ў госці, была ў кароткай спадніцы — прычынаў можа быць названа шмат, бо жанчына "правакуе" ўжо тым, што яна жанчына.

Па сведчаннях псіхолага, ахвяра гвалту пакутуе такім жа посттраўматычным сіндромам, як ветэраны лакальных войнаў. А адносіны грамадства да жанчыны адно ўзмацняюць пачуццё безабароннасці. На семінары згадваўся прыклад: дзяўчына пасля гвалту скончыла жыццё самагубствам. Грамадства сцвярджала, што яна прастытутка, а экспертыза паказала, што гэтая дзяўчына была цнатлівай.

Зрэшты, хоць прастытутка — не лепшая жаночая прафесія, але з гэтага зусім не вынікае, што яе можна гвалтаваць. Дарэчы, жанчына мае права насіць спадніцу той даўжыні, якой лічыць патрэбным. Між іншым, сексапатолагі сцвярджаюць, што адных мужчын узбуджаюць кароткія спадніцы, а другіх, наадварот, — доўгія. На семінары згадваўся прыклад судовага працэсу над амерыканскім баксёрам Майкам Тайсанам, які атрымаў за гвалт досыць вялікі тэрмін. Суд не прыняў да ўвагі, што жанчына сама прыйшла да яго ў госці ў дзве гадзіны ночы. Па словах Алены Гапавай, у нашай культуры існуюць толькі дзве катэгорыі жанчын: мадонна і прастытутка, і жанчына стаіць перад навязаным ёй выбарам: не будзеш адпавядаць першаму вобразу, мы цябе атаясамім з другім! Гэта штучная дыхатамія на працягу ўсёй хрысціянскай гісторыі пакалечыла шмат жаночых, а разам з імі і мужчынскіх лёсаў. Але свет паступова вызваляецца ад гэтай дылемы — вобраз жанчыны ў заходняй культуры сёння шматгранны. Яна можа служыць у войску, працаваць судмедэкспертам, яна ведае каратэ, не лезе за словам у кішэню, ёй дазволена сексуальная свабода.

У цывілізаваным свеце маральныя патрабаванні да мужчыны і жанчыны паступова выроўніваюцца, а ў нас па-ранейшаму пануе падвоеная мараль. І таму вельмі часта жанчына трапляе ў сітуацыю здзеку, калі выходзіць за межы навязанага ёй вобраза.

У сацыялістычным грамадстве людзі падаваліся бясполымі, цяпер культура спрабуе надзяліць нас полам, вяртаючыся да патрыярхальных нормаў, бо ніякіх іншых выпрацаваць не ўдалося. Мужчына ў нас як быццам бы дужы (не правакуй, а то раззлуецца), а жанчына павінна заставацца мяккай, пакорлівай, без уласных сексуальных жаданняў, а тым больш — кар'ерных амбіцый. Калі жанчына з ахвярным менталітэтам і без адпаведнай прафесійнай падрыхтоўкі губляе работу — яна на парозе суіцыду. І калі падобнае становішча будзе працягвацца, то наша Беларусь ператворыцца ў краіну мужчын і жанчын, здольных жыць хіба што ў XIX стагоддзі, а не ў XXI. Жыццё патрабуе іншага — самаідэнтыфікацыі на прынцыпах свабоды, права і адказнасці. Гвалт над жанчынай, перакананая Ізабэль Маркус, — не прыватная, сямейная справа. Бо калі вы дазваляеце здзекавацца з сябе ў сям'і, то і ў грамадстве вы не будзеце нармальным грамадзянінам.

"У мяне ёсць сын і дачка, — сказала на развітанне спадарыня Маркус, — і я хачу, каб яны жылі ў свеце лепшым за той, у якім жывём мы".

**Таццяна ПАЛЯКОВА**



# МАРАЛЬ І ПРАВА

— Я з гэтым не згодзен. Мы цяпер жывём у эпоху канца свету ў псіхалагічным сэнсе. Сучасныя чалавеказнаўцы сапсавалі гісторыю чалавецтва, кажучы пра тое, што нястрымнае спажыванне заўсёды было рухавіком цывілізацыі. На самой справе ўсе культуры, усе цывілізацыі грунтаваліся на непарушнай маральнай аснове. Чалавек з дзяцінства выхоўваўся на пэўных каштоўнасцях — род, радзіма, жытло, сонца, вада, Бог і да т.п. І ніколі чалавек не мяняў кахання на грошы.

**— Маральныя погляды людзей мяняюцца адпаведна зменам іх сацыяльнага жыцця. Гэта аб'ектыўная заканамернасць ці не?**

— Уся бяда ў тым, што неадпаведнае сапраўдным патрэбам спажыванне, якое пачало культывавацца ва ўладных элітах, зрабілася законам для ўсіх. Жыццё грамадстваў па віне тысяч ці дзесяткаў тысяч людзей механізавалася. Законы нагрувашчваліся адзін на адзін. Усё гэта і стварыла сітуацыю псіхалагічнага канца свету. Мне здаецца, што барацьба ўвогуле не характэрна для чалавека як віду. Сучасныя навукоўцы ўжо адкрылі клас так званых праблемавырашальных тэхналогіяў. Гэта наборы метадаў, спецыяльных прыёмаў, якія сцвярджаюць — няма невырашальных супярэчнасцяў, няма невырашальных канфліктаў. У чалавека ўжо дастаткова вопыту і ведаў, каб не ўжываць гвалту для вырашэння сваіх праблемаў, але пакуль усё трымаецца на гвалце. Праблема ў цемрашальстве. Калі грамадства перастае надаваць увагу развіццю інтэлекту і сумлення, то ў адказ атрымлівае войны, крадзяжы, зло?

**— Ці лічыце вы Аляксандра Македонскага вялікім чалавекам?**

— Я лічу яго вялікім "задзіракам". Грамадства тады знаходзілася ў такім стане, што інакш, як праз войны, не магло развівацца. Але чыста псіхалагічна стан заваёўвання суседзяў ненармальны. Калі ў вас усё ёсць, у вас усё добра, калі вы гадуеце свой сад і любіце сваю рэчку, вы не пажадаеце ісці ў Персію і адбіраць тое самае ў вашага суседа. Той, хто хоча адабраць нешта ў другога, рэалізуе праз гэты гвалт свой унутраны неўратычны канфлікт. Чалавек не можа задавальняцца тым, што ён ужо мае, і пачынае вырашаць свае ўласныя праблемы за кошт дзеянняў вонкі. Вось чаму гісторыя чалавецтва — гэта эвалюцыя насілля і гвалту.

**— У кожнай дзяржаве ёсць рэпрэсіўны апарат, з дапамогай якога дзяржава ўтрымлівае ўладу. Як увогуле можа сумяшчацца мараль і ўціск.**

— Нядаўна я ездзіў у Магілёў, дзе ў мяне была цікавая размова з педагогам вучэльні. Яна казала, што яе падлеткі напаўкрымінальныя. Яны не разумеюць нармальнай чалавечай мовы. Але вось прыйшоў у вучэльню падпалкоўнік у адстаўцы, пастроіў іх па стойцы смірна — і яны ўсе яму падпарадкаваліся. Гэтым падлеткам пачуваецца нашмат лепш у падначаленні жорсткага чалавека. Гэта проста прыклад таго, што сёння мы не можам абысціся без гвалту, насілля... На жаль, сучасны чалавек лічыць вар'яцтвам жыць дзеля народа, думаць пра культуру, ахвяраваць сваім жыццём дзеля нейкіх ідэальных каштоўнасцяў. Эгаістычная пазіцыя ці не ў большай пашане, чым пазіцыя служэння людзям.

**— Чаму палітыкі гэтак часта паводзяць сябе амаральна? І чаму дзяржаўныя законы гэтак часта маюць рэпрэсіўны характар? Чалавек ад прыроды дрэнны ці нешта дрэннае закладзена ў схему функцыянавання самага грамадства? Чалавек, які мае шмат грошай — гэта жахліва, але больш жахліва, калі чалавек мае шмат улады.**

— Ёсць тры д'яблы — улада, грошы і папулярнасць. Вось гэтыя тры д'яблы з псіхалагічнага гледзішча даюць чалавеку энергію, і гэтая энергія ідзе на задавальненне таго горшага, што ў нас ёсць. Палітыка разглядаецца ў нас не як служэнне народу, а як уласнае прадпрымальніцтва, як прыбытковае ўкладанне капіталу. Накіроўваючыся з такімі мэтамі ў палітыку, чалавек абавязкова становіцца цацкай структураў, якія яго выкарыстоўваюць у сваіх мэтах. Адсюль адсутнасць маралі, страта ідэалаў. Але такая прырода чалавека — нас вабіць гэтая крыніца энергіі. Людзі імкнуцца да ўлады ў надзеі рэалізаваць свае патаемныя мары.

**— Ці кожнае злачынства амаральнае, напрыклад, выпадковае?**

— Злачынства само па сабе — гэта парушэнне правілаў гульні. І неістотна, крадзёж гэта, забойства ці нешта іншае. Калі вы парушылі правілы гульні свядома, суд дае адно пакаранне, а калі несвядома — іншае. Здараецца, што чалавек міжволі робіць злачынства і сам ад гэтага пакутуе. А часам чалавек свядома творыць злачынства і пасля яго адчувае сябе зусім нармальна. Самае жахлівае ў тым, што менавіта ілжэмаральныя матывы выкарыстоўваюцца для апраўдання злачынства. Гэта віна нашай культуры... Мы не тлумачым людзям, што этыка — гэта жывы парастак, які нельга з уласнай волі пасадзіць ці зрабіць яго тым або іншым. Калі ты адчуваеш, што ты памыліўся, то рана ці позна будзеш сябе за гэта сам караць. Я думаю, што самае вялікае пакаранне за любое злачынства —вольнае ці міжвольнае — гэта ўласнае разуменне таго, што ты здзейсніў зло, і ў гэтым сэнсе суд ёсць толькі фармальнае вызначэнне ўласнага пакарання. Чалавек са сваёй унутранай канстытуцыі не можа здзяйсняць разпораз злыя ўчынкі, а калі падобнае здараецца, то ён разбураецца як маральная асоба. Чалавек губляе сваю цэласнасць. Вопыт дыктатараў гэта пацвярджае: практычна ўсе яны станавіліся псіхічна хворымі. Чалавек маральны — цэласны, ён здаровы. Гэта галоўная ўзнагарода яму за ягоную законапаслухмянасць.

**— Як стасуецца з вашай працай астралогія? Ці звязана ўвогуле астралогія з праблемамі маралі і псіхалогіі?**

— Я паўстаю перад слухачамі і тэлегледачамі як салідны астролаг. І вось чаму. Да прыкладу, мы цяпер аналізавалі праблему законнасці і маралі. Як ні дзіўна, астралогія — гэта навука, якая звязвае гэтыя дзве катэгорыі ў адно цэлае. Сумленне — гэта адчуванне таго, што ты жывеш па ўнутраным законе праўды жыцця. Чалавек шчаслівы тады, калі ён жыве ў згодзе з самім сабой. Але толькі астралогія адказвае на пытанні: якая твая індывідуальнасць, у якія тэрміны, як і кім ты павінен стаць і што табе патрэбна здзейсніць у гэтым жыцці. Атрымліваецца, што зоркі на небе і маральны закон унутры нас — гэта адно і тое самае. Вось чаму чалавек маральны павінен быць знаёмы з астралогіяй як з навукай, якая тлумачыць законы знешняга і ўнутранага жыцця.

**— Часам кажуць, што наш лёс прадвызначаны наперад. Як вы ставіцеся да такой думкі?**

— Я лічу, што самым каштоўным дарункам, які дадзены чалавеку, з'яўляецца свабода выбару, і мяне зусім не цікавіць, наколькі мая свабода выбару адпавядае законам сусвету. Я мушу дзейнічаць згодна закону майго ўнутранага сумлення. Я лічу, што размовы пра наканаванне, абсалютную залежнасць індывідуальнага лёсу ад нейкага фатуму паходзяць ад залішняй рацыяналістычнасці мыслення. Сэрцам мы ведаем, што заўсёды ёсць выбар. Уласна, асноўны сэнс астралогіі — гэта абудзіць чалавека да выбару свайго шляху. Чалавек лічыць, што ён залежны ад вонкавых абставінаў, яму здаецца, што ён ў пастцы. Астролаг тлумачыць — ні ў якім разе, у кожнай сітуацыі ёсць выбар. І калі чалавек разумее гэта, у яго з'яўляюцца сілы для перааддолвання вонкавых перашкодаў.

**— Як забяспечыць выкананне маральных нормаў пры выкананні закона, каб не атрымлівалася па вядомай рускай прымаўцы: "Закон что дышло, куда повернул, туда и вышло". Ці магчыма згода паміж этыкай і законам?**

— Так, і многія ведаюць, як гэта зрабіць. Пытанне толькі ў тым, каб законы былі рэальныя і іх выконвалі. Патрэбны інстытут суддзяў у кожным раёне, якія будуць абіраць на ўсё жыццё. Тады людзі будуць больш адказна ставіцца да абрання суддзі, а суддзя не будзе залежаць ад улады.

**— А ці ёсць такія людзі, якія могуць быць суддзямі пажыццёва?**

— Разумееце, калі суддзі будуць мяняцца, то мы ніколі не зможам граматна выкарыстоўваць законы. Суддзя павінен быць па азначэнні незалежны ад хоць якога ўціску, ён не павінен залежаць нават ад сваіх выбаршчыкаў. Што да магчымасці маніпулявання законам... Цяпер мы шмат гаворым пра прававую дзяржаву, але немагчыма зрабіць законы такімі, каб праз іх людзі былі харошымі. Закон — гэта рэпрэсіўны інструмент, і пакуль не будзе адпаведнага выхавання, праблема застанецца нявырашанай.

**— Ці патрэбна нашым людзям кансультацыя псіхолага? Як да вас можна трапіць на кансультацыю?**

— Можна пазваніць па тэлефоне 266-88-67 і паразмаўляць з нашымі аператарамі. Псіхалагічная кансультацыя справа досыць небяспечная. Калі чалавек ідзе на кансультацыю, то значыць ён вырашыў маральна пераменіцца. Калі такога рашэння няма — псіхолаг непатрэбны. Проста паразмаўляць можна ў салоне ці бары. Псіхолаг, я лічу, — постаць культавая. Гэта зусім не тое, што, скажам, цырульнік, які ўсяго толькі абслугоўвае кліентаў. Псіхолагу, каб дасягнуць выніку, патрэбна сфарміраваць пэўныя адносіны да свайго "пацыента". Што да магчымасцяў псіхалагічных кансультацый, то я лічу, што Чарнобыль і ўсе іншыя эканамічныя праблемы — гэта нішто ў параўнанні з адсутнасцю масавых кансультацый псіхалагічнай дапамогі.

# ВАЛЕРЫЙ ЖЫЛЬЦОЎ КУМІРАЎ САБЕ НЕ СТВАРЫЎ... АКРАМЯ АДНАГО

***Ці магчыма сумясціць, нават ва ўяўленні, вытанчаны жывапіс з... нашыўкай для формы паліцэйскага або міліцыянта? А вось наш герой сумяшчае. І нават не ва ўяўленні...***

*Даведка: Валерый Жыльцоў. Бізнесмен. Калекцыянер. Мецэнат. Нарадзіўся ў 1951 годзе ў Ленінградзе. Скончыў архітэктурна-будаўнічы факультэт БПІ. З 1988 года — старшыня праўлення фірмы "Жыльбел". Жанаты. Жонка Людміла Жыльцова — дырэктар мастацкага цэнтра "Жыльбел". Знак Задыяка — Авен.*

**— Валерый Якаўлевіч, дык што ж такое фірма "Жыльбел"? У нашай дзяржаве яна шырока вядомая ў колах мастацкай інтэлігенцыі, але яе ведаюць не толькі творцы. З чаго ўсё пачыналася?**

— Пасля заканчэння політэхнічнага інстытута ў Мінску я самастойна авалодаў яшчэ адной, дастаткова рэдкай у той час, прафесіяй — шаўкографа. Адкрыў творчае прадпрыемства па гэтай справе, дакладней, мастацкі цэх, пры калгасе імя Карла Маркса ў Валожыне. Друкавалі мы плакаты, паштоўкі, вымпелы, якія карысталіся попытам.

**— Я памятаю тыя гады, калі вы сумесна з Саюзам мастакоў БССР сталі заснавальнікам выдавецтва "Плакат"...**

— Гэта было пазней. Да таго ж часу ў нас паспяхова працаваў свой, можна сказаць, альтэрнатыўны Саюзу, мастацкі савет. Потым Саюз перадаў нам вытворчы ўчастак "Агітплаката" па вуліцы Антонаўскай, дзе мы арганізавалі вытворчасць высакаякасных плакатаў. Бо стрыжнем нашай дзейнасці была творчасць і толькі яна. Мы супрацоўнічалі з таленавітымі мастакамі, у нас былі добрыя заказы, і ў хуткім часе наш мастацкі савет пераўтварыўся ў сапраўдны культурны цэнтр, дзе мы збіраліся, дыскутавалі, наладжвалі выставы і г.д. Якраз 5 жніўня спаўняецца пяць гадоў з дня адкрыцця першай "жыльбелаўскай" выставы.




**— І колькі ж вы падобных выстаў правялі за гэты час?**

— Больш за сто. Сярод іх — вернісажы Леаніда Шчамялёва, Уладзіміра Савіча, Славы Захарынскага, Уладзіміра Акулава, Уладзіміра Тоўсціка, Ягора Батальёнка, Георгія Скрыпнічэнкі, а таксама ўдзельнікаў Першага Шагалаўскага пленэру.

**— Які ж сэнс для Вас, бізнесмена, праводзіць мастацкія выставы, якія, я гэта добра ведаю, не прыносяць вялікіх дывідэндаў?**




— Па-першае, я прапагандую сучаснае беларускае мастацтва, якое вельмі люблю. Падкрэслю, што выставы мы праводзім не толькі ў Траецкім прадмесці, дзе арандуем выставачную залу, але і на іншых пляцоўках горада. Напрыклад, у банках. Перакананы, што мастацтва павінна належаць не толькі вузкаму колу знаўцаў, але і тым, хто ўступіў у эру рынкавай эканомікі — бізнесменам, банкірам, прадпрымальнікам. Ад гэтага будзе вялікая карысць не толькі ў эстэтычна-маральным сэнсе...

**— А па-другое?**

— "Жыльбел" стварае сваю ўласную калекцыю жывапісу і графікі, якую час ад часу мы паказваем людзям.

**— Словам, асноўныя накірункі дзейнасці мастацкага цэнтра "Жыльбел" заключаюцца ў арганізацыі выстаў і фарміраванні збору карцін?**

— Не толькі. Шмат увагі мы аддаем рэалізацыі сумесных праектаў з разнастайнымі культурнымі ўстановамі. Дарэчы, мы гатовы і сёння разглядаць любыя цікавыя творчыя прапановы ад любых структур.

**— Калі ж мы пабачым вашу калекцыю цалкам, скажам, у Палацы мастацтва?**

— У перспектыве мы гэтае пытанне таксама вырашым...

**— Колькі твораў у вашай калекцыі?**

— Больш за пяцьсот. Акрамя таго, выдаем альбомы-каталогі пра творчасць мастакоў, якія ў нас выстаўляліся. Вось выдалі альбомы жывапісу Захарынскага, Тоўсціка, Батальёнка. Зараз рыхтуем альбом твораў удзельнікаў Другога міжнароднага Шагалаўскага пленэру.

**— Не сакрэт, што грамадства сёння з пэўнай асцярогай глядзіць на так званых "новых беларусаў", нуварышаў, для якіх паняцце "культура" не выходзіць за рамкі мадэрновага аўто альбо загараднага "палаца" ў стылі а ля "замак з байніцамі"...**

— Безумоўна, ёсць і такія. Але і іх трэба адукоўваць. І ў гэтых адносінах высокае мастацтва, на мой погляд, той самы "далікатны настаўнік", які фарміруе не толькі густ, але здольнасць мысліць і адчуваць: чалавеку не варта губіць сваю душу за метал.

**— І ўсё ж я мяркую, што наўрад ці прапаганда выяўленчага мастацтва — асноўны від дзейнасці вашай фірмы.**

— Натуральна. Скажу без перабольшання, наша фірма з'яўляецца лідэрам у вытворчасці нашывак для форменнай, а таксама дзіцячай і спартыўнай вопраткі на тэрыторыі былога СССР.

**— Нашывак? А чым яны адметныя? Можа раскрыеце "ваенную тайну"?**

— Мы ўжываем такую тэхналогію, якая дазваляе атрымліваць высакаякасныя шматкаляровыя нашыўкі, устойлівыя да атмасферных уздзеянняў. Іх мы выкарыстоўваем і ў якасці знакаў адрознення для вайсковай формы адзення. Прадукцыя "Жыльбела" вытрымала не толькі лабараторную апрабацыю, але і выпрабавана на практыцы ў звычайных і палявых умовах.

**— Цікава, ці сустракаем мы вашу прадукцыю на вуліцах?**

— Вядома ж. Нашы знакі адрозненняў можна ўбачыць на формах супрацоўнікаў міліцыі, мытных службаў, пагранвойскаў Беларусі, многіх вайсковых падраздзяленняў краін СНД — Казахстана, Узбекістана, Украіны, Расіі, Малдовы і г.д. А яшчэ мы абслугоўваем шматлікія ведамасныя службы бяспекі і грамадзянскія фарміраванні, якія выкарыстоўваюць форменную вопратку.

**— Дык вы трымаеце манаполію на нашыўкі па ўсёй тэрыторыі СНД?**

— Болей за тое. Паліцэйскія ЗША і Германіі з вялікім задавальненнем карыстаюцца нашымі паслугамі. Так-так, якасць і невысокі кошт нашай прадукцыі зрабілі яе канкурэнтаздольнай на сусветным рынку.

**— Якія ж канкрэтна шэўроны вы выпускаеце?**

— Гэта — нарукаўныя знакі, нагрудныя знакі адрознення, эмблемы на галаўных уборах і абутку, а таксама пагоны. Для вытворчасці іх выкарыстоўваем нямецкія і фінскія фарбавальнікі, якія дазваляюць вытрымліваць шматразовую хімчыстку і мыццё пры высокіх тэмпературах на працягу доўгага часу. Дарэчы, летась быў праведзены параўнальны аналіз якасці плёначнага пакрыцця нарукаўных знакаў розных прадпрыемстваў-вытворцаў на трываласць да пяціразовага выкарыстання хімічнага растваральніка. Найлепшы знешні выгляд пасля выпрабавання захавала наша прадукцыя. Акрамя таго, наша прадпрыемства распрацоўвае і мадэлі форменнай вопраткі, якую будуць вырабляць у месцах зняволення.

**— Дзякуй Богу, што такім чынам хоць крыху будзе вырашана праблема забеспячэння працай гэтага кантынгента.**

— Так.

**— Скажыце, Валерый Якаўлевіч, хто распрацоўвае эскізы вашай прадукцыі?**

— Запрашаем мастакоў і дызайнераў самых розных накірункаў. Галоўнае, каб быў добры вынік. Творчы напрамак фірмы дазваляе забяспечыць высокі ўзровень графічных і дызайнерскіх распрацовак, сучасная тэхніка — хутка і якасна атрымаць мастацкія арыгіналы. Памятаю, гады чатыры таму ў нашу фірму трапіла замова ад прэзідэнта Узбекістана: тэрмінова выканаць шэўроны для ганаровай прэзідэнцкай варты ў сувязі з прыездам у Ташкент Франсуа Мітэрана. Мы падрыхтавалі пяць варыянтаў і накіравалі іх ва Узбекістан. І прэзідэнт без хоць якой заўвагі выбраў адзін з іх. Заказ быў выкананы дакладна ў тэрмін.

**— Што ж, фірма "Жыльбел" займаецца творчым працэсам, а значыць спрыяе ўзмацненню эканомікі дзяржавы... А вось вашы асабістыя чалавечыя захапленні, якія яны?**

— Я жыву паводле біблейскага прынцыпу: не ствары сабе куміра. Таму куміраў у мяне, як такіх, няма. Скажам, у мастацтве я люблю многіх мастакоў, зусім розных — ад рэалістаў да кубістаў, ад імпрэсіяністаў да авангардыстаў. Да таго ж, у розныя перыяды жыцця мае густы мяняліся. Як, урэшце, у літаратуры і музыцы.

**— І ўсё ж, ці ёсць такі творца, перад якім вы, як кажуць, знялі б капялюш?**

— Бадай, ёсць: Леанарда да Вінчы.

**— Лепшы перыяд вашага жыцця?**

— Цяжка сказаць. Магчыма, школьныя гады. У прынцыпе, жыццё ў мяне ішло даволі роўна. Калі ўзнікалі праблемы, а яны былі заўсёды, я іх пераадольваў самастойна. І ў гэтым "супрамаце" — мая існасць.

**— Ваш дэвіз?**

— Рух — гэта жыццё!

**— Краіна, у якой вы хацелі б жыць?**

— Беларусь.

**— Любімае месца ў Мінску?**

— Траецкае прадмесце, дзе знаходзіцца мой офіс і выставачная зала.

**— Вольны час?**

— Спорт: плаванне, тэніс, веласіпед...

**— Чаго вы не любіце ў жанчыне?**

— Суцэльны прагматызм, які знішчае жаноцкасць.

**— А ў мужчыне?**

— Слабасць.

**— Што вас прыводзіць у захапленне?**

— Прыгожая жанчына, прыгожая прырода, прыгожы жывапіс.

**— Ваша ўяўленне пра шчасце?**

— Калі праца завяршаецца поспехам.

**— Хто на вас больш за ўсіх паўплываў у жыцці?**

— Бацькі.

**— Што б вы змянілі ў жыцці, калі б надарылася такая магчымасць?**

— Форму адпачынку. Мне ў сувязі з працоўным рытмам даводзілася ў гэтым сэнсе шмат страчваць.

**— У чым для вас асабіста сэнс жыцця?**

— У працы, якую любіш, якая дае табе максімальнае задавальненне. І не толькі табе, але і людзям, што побач.

**— Дык значыць у вас усё ж ёсць кумір? Яе Вялікасць Праца?**

— Ну, з гэтай трактоўкай нельга не пагадзіцца...

**Гутарыў Барыс КРЭПАК**

## НАСТАЛЬГІЯ ГЕОРГІЯ СКРЫПНІЧЭНКІ



Сёлетні юбілей Мінска абумовіў шэраг падзей, роўных па размаху амаль што бразільскаму карнавалу. Падзея выклікала шырокі рэзананс у культурным асяроддзі сталіцы. Свет убачыла ўсё, што было прысвечана гораду: вершы, канцэрты, шэсці, палотны...

З нагоды свята ў Мастацкім цэнтры "Жыльбел" размешчана выстава акварэляў вядомага мастака Георгія Скрыпнічэнкі. Творы датаваны 60-мі гадамі, таму тут не знайсці выяў шматпавярховых будынкаў, станцый метро, людных плошчаў і запруджаных машынамі вуліц як сімвалаў сённяшняга горада. У Скрыпнічэнкі — гэта свет драўляных домікаў і невялікіх завадскіх труб, амаль некранутай, амаль вясковай прыроды і старых трамвайчыкаў.

Карціны, што пісаліся з любоўю да аб'екта адлюстравання, нясуць у сабе гэта пачуццё, зараджаюць ім кожнага, хто датыкаецца да твораў. Так і тут; пэўна, таму, што Скрыпнічэнка занатаваў на аркушах горад сваёй маладосці, часы спадзяванняў і летуценняў. Мае месца той рэдкі выпадак, калі чалавек, не атрымаўшы дыплома вышэйшай навучальнай установы, з мастацкай вучэльняй за плячыма, здолеў стаць адным з выдатных майстроў сучаснага беларускага мастацтва. Георгій Скрыпнічэнка, як кажуць спецыялісты, — сюррэаліст. Хоць, сёння, на мой погляд, ён не ўкладваецца ў нейкія азначаныя схемы ці творчыя напрамкі. Ён шырэй, шматгранней, цікавей не толькі па вобразна-пластычных сродках, але і па сваіх адносінах да свету, у якім ён жыве. А што да сённяшняй экспазіцыі, дык тут мы ўбачылі менавіта тыя зыходныя падставы яго творчасці, з якіх ён вырас у самастойнага мастака-мысліцеля, філосафа, мастака-эксперыментатара.

Так, наш горад за гэты час непазнавальна змяніўся. Аднак душа мастака працягвае трапяткое жыццё ў тых зацішных, маляўнічых дворыках, якія сёння для нас засталіся вострай настальгічнай памяццю, цудоўнай казкай, легендай непаўторных, слаўных шасцідзесятых.

**Ганна ДАШКЕВІЧ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

## "...АДНО, СВАЁ НА ЎСЁ ЖЫЦЦЁ"

*(Пачатак на стар. 1.)*

І думаецца, што чытачы таму і любяць гэтага пісьменніка, што раз за разам знаходзяць у яго творах нешта толькі сваё, запаветнае. А як удаецца тое пісьменніку, мабыць, ведае толькі сам Бог, які дае яму дар і цярпенне. Цярпенне шукаць у штодзённым, будзённым побыце фарбы і адценні словаў, сціраць тую будзённасць і прымушаць ззяць светла-трывожным агнём. Чаму трывожным? Таму што боскі дар — гэта заўсёды тое, што не дае спакою, што турбуе ў самыя радасныя хвіліны, што прымушае ісці да рабочага стала і карпець над старонкамі. І толькі сапраўдны, высокай пробы прафесіянал можа напісаць потым:

"Народ стварае мастацтва м і ж і н ш ы м (разрадка ў Я.Б.), робячы вялікую справу здабывання працай хлеба. І робіць ён мастацтва лепш за нас, прафесіяналаў". (Зборнік "Роздум і слова".)

Не кожны пісьменнік умее слухаць народ, які "стварае мастацтва". Але Янка Брыль рабіў гэта заўсёды. І, як у Фолкнера, ён вылепіў свой уласны свет, сваю, калі так можна сказаць, дзяржаву, дзе, як скрозь леташнюю траву, прарастаюць скрозь пласты часу пазнавальныя рысы яго ранейшых герояў, дзе тыя сцежкі, тыя ж шляхі, па якіх мы нібыта ўжо хадзілі. Але яны тыя ж — і заўсёды новыя, як тое ж — і заўсёды новае само жыццё. Апавяданне "Мой зямляк" — гэта нібы пачатак славутых яго "Ніжніх Байдуноў", кнігі паўнакроўнай, як сама зямля, і светлай, як неба.

Калі я бываю на Карэліччыне, нашай агульнай радзіме, я кожны раз думаю аб тым, як хораша, нібы кропля расы на ранішнім лісце, пераліваецца, зіхаціць яна ў творах народнага пісьменніка — людзьмі, прыродай, мяккай лірычнасцю асобы Мастака. А яшчэ — любоўю. Мабыць, без яе не было б у творчасці Янкі Брыля той чароўнай інтанацыі, той майстэрскай філіграннасці ў кожным сказе, якая робіць яго вялікім пісьменнікам і пра якую ён піша, пачынаючы "Ніжнія Байдуны":

"Пэўна ж, ёсць і ў мяне паваротка з гасцінца на палявую дарогу, у родную вёску. Нават не адна, а дзве, з захаду і з усходу, нібы сімвалічна. З захаду я аднойчы вярнуўся дахаты пасля даўжэйшай разлукі; з усходу, госцем, прыязджаю даволі часта і амаль заўсёды з хваляваннем. Яно бывае то большае, то меншае, але ж у нечым кожны раз адно, сваё на ўсё жыццё".

Але гэта толькі няпоўны адказ на пытанне — у чым сакрэт яго майстэрства, маладой свежасці слова. Загадку Майстра, бывае, разгадвае не адно пакаленне...

**Вольга ІПАТАВА**



# 4 ЖНІЎНЯ МІКАЛАЮ СЕЛЕШЧУКУ БЫЛО Б ПЯЦЬДЗЕСЯТ...

**Дзесяць месяцаў не дажыў Мастак да свайго юбілею, усяго дзесяць месяцаў. Мы, яго калегі, таварышы і сябры, журналісты, хто ведаў і любіў творчасць гэтага адметнага майстра, безумоўна ж, адзначым гэтую дату. Без яго...**

**А хаця ж не. Усё роўна ён будзе з намі. Як і яго карціны, напоўненыя шчымлівым, казачным святлом любові і журбы; як і яго па-зямному добрыя ілюстрацыі, асацыятыўныя гравюры і акварэлі — складана-разгалінаваныя, філасофскія, часам іранічныя...**

**Коля працаваў з двухмернай прасторай, але звышзадача яго была не ў стварэнні ілюзій трэцяга вымярэння, але "чацвёртага" — духоўнага.**

**І сваю духоўную прастору ён стварыў рамантычнай мовай метафар і ўвасабленняў складаных асацыяцый і дзіўнай умоўнасці сваіх прасторава-часавых канструкцый.**

**Так, Коля з намі. І мы, узгадваючы яго, па-біблейску прыгожага, адкрытага, шчодрага, узнімем келіхі за яго Дзень нараджэння. За яго мастацтва, якое насамрэч належыць людзям...**

**З юбілеем цябе, Коля!**

**КУЛЬТУРАЎЦЫ**

Фотаздымкі ў розныя перыяды жыцця М.Селешчука зрабіў яго сябар Яўген КОКТЫШ.















HOC QUERE

## Панядзелак, 4 жніўня

### Беларускае тэлебачанне

7.30 Ранішні кактэйль.
7.45 "Музычная абойма".
7.50 Эканамікст.
8.00 Рэзананс.
8.45 "Тэлебарометр".
8.55 Здароўе. Неўрозы ў дзяцей і падлеткаў.
9.25 "Залаты ключык". Маст. фільм.
10.40 "Пра Ксюшу і Кам'юшу", "Паходня і балерына". Мультфільмы.
11.10 Тэлевізійны Дом кіно. Адкрыты Расійскі кінафестываль "Кінатаўр".
11.45 "Кадфаэл". 3-я серыя.
12.25 "Калыханка з лялькай". Дак. фільм.
13.00 Навіны.
13.10 Анжэліка Няволіна ў маст. фільме "Вікторыя".
14.35 "Люстэрка". Праграма для жанчын.
15.00 Навіны.
15.15 "Прададзены смех". Фільм для дзяцей. 1-я серыя.
16.30 "Творчая правінцыя". Паэтэса Ірына Дарафейчук.
16.45 На добры лад. Перадача з Гомеля.
17.10 Госці ў дом.
17.45 Эканамікст.
18.00 Навіны (з сурдаперакладам).
18.20 "Кадфаэл". 3-я серыя.
19.05 "Музычная абойма".
19.10 "Справа па абвінавачванні". Фільм 4-ы "Кароткае замыканне".
19.40 Чацвёртае вымярэнне. Паліхромная фатаграфія.
20.00 "Спектр. Галерэі XX стагоддзя". Тэленарыс пра адраджэнне Нясвіжскай галерэі.
20.20 "Хто гэта?" Тэлегульня.
20.25 Музычны антракт.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.50 Фільматэка. "Балада пра доблеснага рыцара Айвенга". Маст. фільм.
23.25 Навіны.
23.35 Фестываль "Музыка і тэатр".

### ГРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 0.00 Навіны.
8.15 "Дзяўчына па імені Лёс".
9.00 "Поле цудаў".
9.55 Футбольны агляд.
10.30 "Адгадай мелодыю".
14.20 "Мой дамашні дракон". Мультсерыял.
14.45 Марафон-15.
15.05 Зорная гадзіна.
15.40 "Гары — снежны чалавек".
16.05 "...Да шаснаццаці і старэй".
16.30 "Вакол свету".
17.20 "Дзяўчына па імені Лёс".
18.05 Надвор'е.
18.10 Гадзіна пік.
18.35 "Адгадай мелодыю".
19.00 Панядзелак з Познерам. Праграма "Чалавек у масцы".
19.45 "Добрай ночы, малышы!"
20.00 Час.
20.40 "Полтэргейст-2". Серыял.
21.30 "Тэатр+TV". Канстанцін Райкін.
22.20 Шарль Азнавур у фільме "Страляйце ў піяніста".

### Расія

7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.25 Лукамор'е.
7.50, 16.55 Паглядзі на сябе.
8.00 Праваслаўны каляндар.
8.05 "Шэкспірыяда". Мультсерыял.
8.35 Сам сабе рэжысёр.
9.10 "Санта-Барбара".
13.25 Ціхі дом. Праграма С. Шолахава.
14.05 Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
15.10 Тэлемагазін "Квантум".
15.15 Ці-маркет прадстаўляе.
15.25 "Брадвей нашага юнацтва". Дак. серыял.
16.20 Там-там навіны.
16.30 Лукамор'е.
17.05 Пульс.
17.40, 0.15 Тавары — поштай.
17.45 Прадстаўляе "Праект-арсенал".
18.00 "Санта-Барбара".
19.35 Добры вечар.
20.20 Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
22.35 Дзяжурная часць.
23.00 "Брава, Слава!" Канцэрт, прысвечаны 70-годдзю М. Растраповіча.

### Санкт-Пецярбург

12.30, 15.30, 18.30, 20.25 Інфарм ТБ.
12.45 "Гісторыя кахання". Серыял.
13.35 Тэрмін адказу — сёння.
14.05 Парады садаводам.
14.25 Парадоксы гісторыі. "Сава Марозаў. Фінал трагедыі".
14.55 Міжнародны агляд.
15.40, 22.20 Тэлеслужба бяспекі.
15.55 "Свядомасць забойцы". Маст. фільм. 3-я серыя.
16.45 Паласатая музыка.
17.00 Дзецям пра зверанят.
17.25 Тэлемагазін.
18.45 Спорт.
18.55 "Пляж". Мультфільм.
19.10 "Гісторыя кахання". Серыял.
20.00 Тэлестанцыя "Мая Расія".
20.30 Руская сядзіба.
20.55 Пенальці.
21.30 "Свядомасць забойцы". 3-я серыя.

### НТБ

5.00 Сёння раніцай.
8.15 "Паліцыя Нью-Йорка".
9.15 Тэлегульня "Зразумей мяне".
9.45 Навіны кіно.
10.00 "Спадарыня следчы".
11.00, 13.00, 15.00 Сёння ўдзень.
11.20 Дог-шоу. Я і мой сабака.
11.50 "Прыгоды капітана Урунгеля". 1-я серыя.
12.00 Дак. серыял.
13.20 Дэтэктыў "Позняе шоу".
15.10 "Блакітнае дрэва". Маст. фільм.
16.00 Дыстанцыя 60.
17.00 Крымінал.
17.05 Я — целаахоўнік.
17.15 У запас.
17.30 Футбольны клуб.
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.40 Меладрама "Чацвёра сяброў" (ЗША).
21.45 "Пяскі часу". Заключная серыя.
22.40 Часінка.
23.10 Прэм'ера Вольгі Свібловай "Дзіна Верні".

### ТБ-6 Масква

6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.00, 22.45 "Шэсць навін".
6.10 Дыск-канал.
6.35 Надвор'е.
6.40 Мультфільмы.
7.10 Дарожны патруль.
7.45 Аптэка.
8.10 Кінападрабязна.
8.35 "Нью-Йорк, Нью-Йорк".
9.10 Спорт тыдня ў гасцях у расійскіх легіянераў.
9.40 "Сям'я Кэмпбелаў". Серыял.
10.40 Аптэка.
11.00, 18.05 Аналітычная праграма "Аглядальнік".
11.50 "ОСП-студыя".
13.05 Мультфільмы.
14.00 "Патрыятычная камедыя". Маст. фільм.
16.05 "Фліпер". Серыял.
16.35 Дыск-канал.
17.00 Аптэка.
17.10 Дарожны патруль.
17.30 Спорт тыдня.
19.05 Ток-шоу "Музыка і прэса": "Акулы пяра". "Агата Крысці".
20.15 Тэатральны панядзелак.
21.10 М. Жараў, В. Андроўская ў фільме "Мядзведзь".
22.00 "Шоу Бені Хіла".
22.15 Катастрофы тыдня.
23.00 Дарожны патруль.
23.10 Дыск-канал.

### 8-ы канал

18.00 Праграма Кенета Копланда.
18.30 "Дзіўныя гісторыі". Тэлесерыял.
19.30 Аэробіка "Новы Эдэм".
20.00 Мультфільм.
20.30 Музыка на тэлеканале.
21.30 Служба 01.
22.00 "Крадзеж па-буйному". Маст. фільм.

## Аўторак, 5 жніўня

### Беларускае тэлебачанне

7.30 Ранішні кактэйль.
7.45 "Музычная абойма".
7.50 Эканамікст.
8.00 Навіны.
8.10 Вяскоўцы. Любанскі раён.
8.40 "Дзікі сабака дзінга". Маст. фільм.
10.15 "Вер-не-вер". Мультфільм.
10.35 IX Міжнародны фестываль сучаснай харэаграфіі ў Віцебску. Перадача 1-я.
11.20 "Кадфаэл". 4-я серыя.
12.00 Чацвёртае вымярэнне. Сувязь, камунікацыі, чалавек...
12.25 Акалада. Музычна-забаўляльная праграма.
13.00, 15.00 Навіны.
15.15 "Наваселле ў браткі Труса", "Далёка-далёка на поўдні". Мультфільмы.
15.45 Востраў натхнення. "Выбачайце, у нас дзень нараджэння", "Я малюю".
16.30 "Палескі карагод". Перадача з Брэста.
17.00 Музычны антракт.
17.10 Урокі Наталлі Навужылавай.
17.45 Эканамікст.
18.00 Навіны (з сурдаперакладам).
18.20 "Кадфаэл". 4-я серыя.
19.00 Міжнародная сустрэча па футболе. Зборная Беларусі—зборная Ізраіля. У перапынку (19.50) — "Музычная абойма".
21.00 Панарама.
21.50 Аляксей Пятрэнка ў маст. фільме "Гульня на мільёны".
23.30 АРТ-клуб. "Прызнанне ў каханні". Да юбілею заслужанай артысткі Беларусі Алімпіяды Іванаўны Шах-Парон.
0.20 Навіны.
0.30 Трэці тайм.

### ГРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.00 Навіны.
8.15 "Дзяўчына па імені Лёс".
9.00 Праграма У. Познера "Чалавек у масцы".
9.40 Смехапанарама.
10.25 Дамашняя бібліятэка.
10.35 "Адгадай мелодыю".
14.20 "Мой дамашні дракон". Мультсерыял.
14.45 Квар'етэ "Вясёлая квампанія".
14.55 Мульцітролія.
15.15 Чароўны свет, ці Сінема.
15.40 "Гары — снежны чалавек".
16.05 "...Да шаснаццаці і старэй".
16.30 "Вакол свету".
17.20 "Дзяўчына па імені Лёс".
18.05 Надвор'е.
18.10 Гадзіна пік.
18.35 "Адгадай мелодыю".
19.00 "Тэма".
19.45 "Добрай ночы, малышы!"
20.00 Час.
20.40 Георгій Віцын у камедыі "Запасны гулец".
22.10 "Мільён пунсовых ружаў". Песні Раймонда Паўлса.
23.10 Праграма перадач.

### Расія

7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.25 Лукамор'е.
7.50, 16.55 Паглядзі на сябе.
8.00 Праваслаўны каляндар.
8.05 "Шэкспірыяда". Мультсерыял.
8.35 Караоке па-руску.
9.10 "Санта-Барбара".
13.25 Сяргей Лемешаў. Музычная гісторыя.
14.05 Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
15.10 Тэлемагазін "Квантум".
15.15 Ці-маркет прадстаўляе.
15.25 "Брадвей нашага юнацтва". Дак. серыял.
16.20 Там-там навіны.
16.30 Лукамор'е.
17.05 Новае "Пятае кола".
17.40, 0.50 Тавары — поштай.
17.45 Адзін дзень з жыцця жанчыны.
18.00 "Санта-Барбара".
19.35 Добры вечар.
20.20 Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
22.35 Момант ісціны.
23.05 Гарачая дзесятка.
24.00 Прыватная калекцыя.

### Санкт-Пецярбург

12.30, 15.30, 18.30, 20.25 Інфарм ТБ.
12.45 "Гісторыя кахання". Серыял.
13.35 Тэрмін адказу — сёння.
14.05 Парады садаводам.
14.25 "Яе Вялікасці прысвячаецца".
14.55 Тата, мама, я — спартыўная сям'я.
15.40, 22.20 Тэлеслужба бяспекі.
15.55 "Свядомасць забойцы". Маст. фільм. 4-я серыя.
16.45 Ад і да...
17.00 Студыя "Уяві".
17.25 Тэлемагазін.
18.45 Спорт.
18.55 "Дэ факта", "Нядзеля". Мультфільмы.
19.10 "Гісторыя кахання". Серыял.
20.00 Тэлестанцыя "Мая Расія".
20.30 Паэзія.
20.40 Зураб Саткілава ў Санкт-Пецярбургу.
21.30 "Свядомасць забойцы". 4-я серыя.

### НТБ

5.00 Сёння раніцай.
8.15 Мужчынскі серыял "Паліцыя Нью-Йорка" (ЗША).
9.15 Тэлегульня "Зразумей мяне".
9.45 Навіны кіно.
10.00 "Спадарыня следчы". Заключная серыя.
11.00, 13.00, 15.00 Сёння ўдзень.
11.20 Рускія цвікі.
11.50 "Прыгоды капітана Урунгеля". 2-я серыя.
12.00 Дак. фільм "Гісторыя авіяцыі" цыкла "Расія. Забытыя гады". Частка 2-я.
13.20 Меладрама "Зняволены Другой авеню" (ЗША).
15.10 "Блакітнае дрэва". Маст. фільм.
16.00 Дыстанцыя 60.
17.00 Крымінал.
17.05 Я — целаахоўнік.
17.15 У запас.
17.30 "Вуліца Сезам".
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.40 Лірычная камедыя "Усе яны смяяліся" (ЗША).
21.45 Фільм жахаў "Яно" (ЗША). 1-я серыя.
22.40 Часінка.
23.10 Кіно не для ўсіх. "Сплендар" (Італія—Францыя).

### ТБ-6 Масква

6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.00, 22.45 "Шэсць навін".
6.10 Дыск-канал.
6.35 Надвор'е.
6.40 "Асенняя рыбалка", "Раз каўбой, два каўбой". Мультфільмы.
7.10 Дарожны патруль.
7.20 "Рэцэпты ад Цэптэра".
7.30 "Дзякуй за пакупку!"
7.45 Аптэка.
8.10 Тэлеканкрэтна.
8.30 "Вы — відавочца".
9.05 "Сям'я Кэмпбелаў". Серыял.
10.10 Аптэка.
10.25 "Дзякуй за пакупку!"
11.00 Катастрофы тыдня.
11.30 Шоу ежы "Пальчыкі абліжаш".
12.05 "Знак якасці".
12.25 "Дзякуй за пакупку!"
13.00 "Першая зіма", "Ладкі-ладачкі", "Нічога не баюся". Мультфільмы.
13.35 "Дзякуй за пакупку!"
14.00 "Рой". Маст. фільм. 1-я серыя.
15.25 "Знак якасці".
15.35 "Дзякуй за пакупку!"
16.05 "Фліпер". Серыял.
16.35 Дыск-канал.
16.55 "Дзякуй за пакупку!"
17.10 Аптэка.
17.20 Дарожны патруль.
17.35 Шоу Бені Хіла.
17.45 Катастрофы тыдня.
18.15 Шоу ежы "Пальчыкі абліжаш".
19.05 Ток-шоу "Прафесія": "Клоун".
20.15 Джордж Равера ў баевіку "Кулачны баец".
22.05 Мультфільм для дарослых "Папай-вочкі закрывай".
22.15 Тыя Хто.
22.45 "Шэсць навін".
23.00 Дарожны патруль.
23.15 Дыск-канал.
0.00 "Знак якасці".
0.20 Дыск-канал "Начны госць": Brayn Adams.

### 8-ы канал

18.00 Праграма Кенета Копланда.
18.30 Паўторны экран. "Пашпарт". Маст. фільм.
20.00 Мультфільм.
20.30 "Горац-3". Серыял.
21.30 Служба аператыўнай інфармацыі.
22.00 Зоркі на экране. "Далікатэсы". Маст. фільм.

## Серада, 6 жніўня

### Беларускае тэлебачанне

7.30 Ранішні кактэйль.
7.45 "Музычная абойма".
7.50 Эканамікст.
8.00 Навіны.
8.10 Сядзіба. Праграма для дачнікаў.
8.40 Тураб'ектыў.
9.00 "У Мумі-Дол прыходзіць восень", "Пека". Мультфільмы.
9.25 "Ліловы шар". Маст. фільм.
10.40 Абібок.
11.15 "Кадфаэл". 5-я серыя.
11.55 Відзьма-нявідзьма.
13.00, 13.10, 15.00 Навіны.
15.15 "Прададзены смех". Фільм для дзяцей. 2-я серыя.
16.35 Творцы. Паэт Яўген Міклашэўскі.
17.00 Музычны антракт.
17.10 "Арсенал". Прымае ўдзел начальнік Чыгуначных войскаў Рэспублікі Беларусь генерал-маёр А. Я. Сцяпук.
17.45 Эканамікст.
18.00 Навіны (з сурдаперакладам).
18.20 "Кадфаэл" 5-я серыя.
19.00 "Музычная абойма".
19.05 Вертыкаль. Перасяленцы-чарнобыльцы ў Дрыбінскім раёне: праз год.
19.35 Цёмны пакой. Дакладна.
20.00 "Гэта мая работа". Будаўнік.
20.25 Аўтапарк.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.45 "Цэптэр" з місіяй здароўя па ўсім свеце".
21.50 "Поўдзень". Маст. фільм.
23.25 Мотакрос. Фінал чэмпіянату Еўропы.
0.05 Навіны.

### ГРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.00 Навіны.
8.15 "Дзяўчына па імені Лёс".
9.00 "Тэма".
9.40 "У свеце жывёл".
10.20 Дамашняя бібліятэка.
10.30 "Адгадай мелодыю".
14.20 "Мой дамашні дракон". Мультсерыял.
14.45 Кактус і К.
14.55 До-мі-соль.
15.15 Покліч джунгляў.
15.40 "Гары — снежны чалавек".
16.05 "...Да шаснаццаці і старэй".
16.30 "Вакол свету".
17.20 "Дзяўчына па імені Лёс".
18.05 Надвор'е.
18.10 Гадзіна пік.
18.35 "Адгадай мелодыю".
19.05 "У пошуках страчанага". Вядучы — Г. Скараходаў.
19.45 "Добрай ночы, малышы!"
20.00 Час.
20.40 Дзмітрый Пяўцоў у баевіку "...па мянушцы "Звер".
22.15 Ала Пугачова, Валерый Лявонцьеў і група "Любэ" у праграме "Зорны прыбой".
23.10 Праграма перадач.

### Расія

7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.25 Лукамор'е.
7.50, 16.55 Паглядзі на сябе.
8.00 Праваслаўны каляндар.
8.05 "Шэкспірыяда". Мультсерыял.
8.35 L-клуб.
9.10 "Санта-Барбара".
13.25 "Бэла". Фільм аб творчасці Б. Ахмадулінай.
13.50 Ноу хау.
14.05 Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
15.10 Тэлемагазін "Квантум".
15.15 Ці-маркет прадстаўляе.
15.25 "Брадвей нашага юнацтва". Дак. серыял.
16.20 Там-там навіны.
16.30 Лукамор'е.
17.05 Чалавек на Зямлі.
17.40, 1.25 Тавары — поштай.
17.45 Прадстаўляе "Праект-арсенал".
18.00 "Санта-Барбара".
19.35 Добры вечар.
20.20 Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
22.35 Царская ложа.
23.15 Кафэ "Абломаў".
23.55 "Зло, якое робяць людзі". Маст. фільм (ЗША).

### Санкт-Пецярбург

12.30, 15.30, 18.30, 20.25 Інфарм ТБ.
12.45 "Гісторыя кахання". Серыял.
13.35 Тэрмін адказу — сёння.
14.05 Парады садаводам.
14.25 Хутарок.
14.55 Паласатая музыка.
15.05 Тры колы, фаліянт і...
15.40, 22.20 Тэлеслужба бяспекі.
15.55 "Свядомасць забойцы". 5-я серыя.
16.50 Зебра.
17.25 Тэлемагазін.
18.45 Спорт.
18.55 "Мядзведжы сон". Мультфільм.
19.10 "Гісторыя кахання". Серыял.
20.00 Тэлестанцыя "Мая Расія".
20.30 Паэзія.
20.40 Скарбы Пецярбурга. "Аляксандра Фёдараўна і іншыя..."
20.55 Парадоксы гісторыі. Да 195-й гадавіны з дня нараджэння П. С. Нахімава.
21.30 "Свядомасць забойцы". 5-я серыя.

### НТБ

5.00 Сёння раніцай.
8.15 Мужчынскі серыял "Паліцыя Нью-Йорка" (ЗША).
9.15, 17.30 "Вуліца Сезам".
9.45 Навіны кіно.
10.00 Жаночы серыял. "Тэрэза Умбер". 1-я серыя (Францыя).
11.00, 13.00, 15.00 Сёння ўдзень.
11.20 Свая гульня.
11.50 "Прыгоды капітана Урунгеля". 3-я серыя.
12.00 Дак. серыял "Гісторыя МІГа" цыкла "Расія. Забытыя гады".
13.20 Фантастычны трылер "Чылер, ці Змёрзлая душа" (ЗША).
15.10 "Блакітнае дрэва". Маст. фільм.
16.00 Дыстанцыя 60.
17.00 Крымінал.
17.05 Я — целаахоўнік.
17.15 У запас.
18.00, 21.00 Сёння ўвечары.
18.40 Луі дэ Фюнес у камедыі "Скупы".
21.45 Фільм жахаў "Яно" (ЗША). 2-я серыя.
22.40 Часінка.
23.10 Кіно не для ўсіх. "Уявіце сабе: Джон Ленан" (ЗША).

### ТБ-6 Масква

6.00, 8.00, 13.50, 18.55, 20.00, 22.45 "Шэсць навін".
6.10 Дыск-канал.
6.30 Надвор'е.
6.40 "Гісторыя з адзінкай", "Урокі музыкі". Мультфільмы.
7.10 Дарожны патруль.
7.20 "Рэцэпты ад Цэптэра".
7.30 "Дзякуй за пакупку!"
7.45 Аптэка.
8.10 "Дзякуй за пакупку!"
8.30 Шоу Івана Дзямідава "Абоз".
9.25 "Сям'я Кэмпбелаў". Серыял.
10.25 Аптэка.
10.40 "Дзякуй за пакупку!"
11.00 Р. Бартан у фільме "Азірніся ў гневе" (Вялікабрытанія).
12.50 "Дзякуй за пакупку!"
13.05 "Сустрэча", "Акно", "Крылы". Мультфільмы.
13.40 "Дзякуй за пакупку!"
14.00 "Рой". Маст. фільм. 2-я серыя.
15.20 "Знак якасці".
15.30 "Дзякуй за пакупку!"
16.05 "Фліпер". Серыял.
16.35 Дыск-канал.
16.55 "Дзякуй за пакупку!"
17.10 Аптэка.
17.20 Дарожны патруль.
17.40 "Дзякуй за пакупку!"
17.55 ШоуЧвана Дзямідава "Абоз".
19.05 Ток-шоу "Я сама": "Мой муж — былы гомасексуаліст".
20.05 "Шэсць навін".
20.20 Дэміян Чапа ў баевіку "Святыя грэшнікі".
22.15 Тыя Хто.
23.00 Дарожны патруль.
23.15 Дыск-канал.
0.00 "Знак якасці".
0.20 Дыск-канал "Мелодыі кахання".

### 8-ы канал

18.00 Праграма Кенета Копланда.
18.30 "Дзіўныя гісторыі". Тэлесерыял.
19.30 Аэробіка "Новы Эдэм".
20.00 Мультфільм.
20.30 "Горац-3". Серыял.
21.30 Тэлечасопіс "Рынак".
22.00 Кіно Расіі. "Лінія смерці". Маст. фільм.

## Чацвер, 7 жніўня

### Беларускае тэлебачанне

7.30 Ранішні кактэйль.
7.45 "Музычная абойма".
7.50 Эканамікст.
8.00 Навіны.
8.10 Аўтапарк.
8.20 Вертыкаль.
8.50 "З кошкі ўсё і пачалося". Маст. фільм.
10.05 "Фунцік і старая з вусамі", "Пластылінавая варона", "Шчаня і сямёра гусянят". Мультфільмы.
10.45 Госці ў дом.
11.15 "Партрэты" (Вялікабрытанія). 13-я серыя "Мао Цзэдун".
11.45 "Кадфаэл". 6-я серыя.
12.25 "З душой". Дак. фільм.
13.00, 15.00 Навіны.
15.15 "Рыжы, сумленны, закаханы". Маст. фільм для дзяцей. 1-я серыя.
16.30 "Каштоўная бандэроль". Мультфільм.
16.40 "Весткі з правінцыі: будучыня Шаркаўшчыны".
17.00 Музычны антракт.
17.10 Урокі Наталлі Навужылавай.
17.45 Эканамікст.
18.00 Навіны (з сурдаперакладам).
18.20 "Кадфаэл". 6-я серыя.
19.05 "Музычная абойма".
19.10 "Простыя аповяды". Тэленарыс пра сям'ю Летуноўскіх (г. Ліда).
19.35 Летні дзень вёскі. "Жніўныя клопаты". Прымаюць удзел прадстаўнікі міністэрстваў і ведамстваў. Прамая лінія.
20.25 Музычны антракт.
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
21.50 "Тэлебарометр".
22.05 Ларыса Удавічэнка і Наталля Ягорава ў маст. фільме "Жанчына для ўсіх".
23.35 "Крок". Студэнцкія будаўнічыя атрады з Беларусі на Стаўраполлі.
0.05 Навіны.

### ГРТ

8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 22.55 Навіны.
8.15 "Дзяўчына па імені Лёс".
9.00 "У пошуках страчанага". Вядучы — Г. Скараходаў.
9.40 "Клуб падарожнікаў".
10.30 Дамашняя бібліятэка.
10.40 Смак.
14.20 "Мой дамашні дракон". Мультсерыял.
14.45 "Следам за сонцам". Муз. праграма.
15.10 Лега-го!
15.40 "Гары — снежны чалавек".
16.05 "...Да шаснаццаці і старэй".
16.30 "Вакол свету".
17.20 "Дзяўчына па імені Лёс".
18.05 Надвор'е.
18.10 Гадзіна пік.
18.35 "Джэнтльмен-шоу".
19.05 "Мая сям'я: жывёлы ў доме".
19.45 "Добрай ночы, малышы!"
20.00 Час.
20.40 Ратуйся, хто можа, у камедыі "Фантоцы".
22.25 "Магія: свет звышнатуральнага".
23.05 Праграма перадач.

### Расія

7.00, 10.00, 13.00, 16.00, 19.00, 22.00 Весткі.
7.25, 16.55 Паглядзі на сябе.
7.35 "Шэкспірыяда". Мультсерыял.
8.00 Праваслаўны каляндар.
8.05 Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
9.10 "Санта-Барбара".
13.25 Лёгкая атлетыка. Чэмпіянат свету.
14.40 На парозе стагоддзя.
15.10 Тэлемагазін "Квантум".
15.15 Ці-маркет прадстаўляе.
15.25 "Брадвей нашага юнацтва". Дак. серыял.
16.20 Там-там навіны.
16.30 Лукамор'е.
17.05 Людзі, грошы, жыццё...
17.40, 0.50 Тавары — поштай.
17.45 Прадстаўляе "Праект-арсенал".
18.00 "Санта-Барбара".

№ 30 2 — 8 жніўня 1997 г.






РЭПЛІКА

## УЗЛЁТ "ВОЛЬНАЙ СЦЭНЫ", або ШЭКСПІР У ГДАНЬСКАЙ ОПЕРЫ

**Жэня ВАРАКСА**

Сталічны тэатр "Вольная сцэна" 5 жніўня ад'язджае ў гастрольную камандзіроўку ў Польшчу. Не першы раз у Гданьскім тэатры оперы адбудзецца тэатральнае свята шэкспіраўскіх пастановак, што маюцца ў рэпертуары розных еўрапейскіх тэатраў. Мінчукі вязуць папулярны сцэнічны твор "Рычард III", які ў леташнім тэатральным сезоне трапіў у лідэры.

А вось доўгачаканую прэм'еру паводле п'есы Бертольда Брэхта сталічны бамонд так і не ўбачыў. Як стала вядома, прэм'еру перанеслі на верасень. Сапраўды, лепш позна, чым ніколі.

АКВАТОРЫ-Я!

## З ПЕКЛА Ў ПЕКЛА

**Зміцер ВОЛКАЎ**

***Я ўжо меў вопыт сустрэчы з Алай Клюкой. Першы раз, год таму, яна мяне ўразіла вельмі моцна: гэткіх экспрэсіўных па характары людзей я бачыў мала. Чалавек, які ўвесь час нешта распавядае, жэстыкулюе, адным словам — актрыса-тайфун. Лёс ў Алы незвычайны: яна адначасова з'яўляецца актрысай Беларусі, Расіі і Амерыкі. У Мінску яна нарадзілася і тут жывуць яе бацькі, здымаецца пераважна ў расійскіх рэжысёраў, а жыве ў Нью-Ёрку. Ала Клюка — лепшая маладая актрыса Расіі 1995 года, уладальніца прэміі "Зялёны яблык". Яна здымалася ў стужках "Цела" рэжысёра Мікіты Хубава, "Зроблена ў СССР" рэжысёраў Вячаслава Тарахоўскага і Уладзіслава Шамшурына, "Накцюрн Шапэна" рэжысёра Эфраіма Севелы, "Серп і Молат" Сяргея Ліўнева. І вось апошняя стужка — "З пекла ў пекла" рэжысёра Дзмітрыя Астрахана. Нядаўна на расійскім кінафестывалі "Кінатаўр" абвясцілі, што ў 1997 годзе Ала сыграла лепшую жаночую ролю і ад вядомай італьянскай фірмы "Антаніні" ёй прызначана калье — "Брыльянтавая зорка". Гэта нейкім чынам і паспрыяла, каб Ала прыехала з Амерыкі, — трэба атрымаць узнагароду. Праўда, як прызналася сама актрыса, яна і так збіралася наведаць бацькоў і сяброў.***



*Кадр з фільма "З пекла ў пекла".*

**— У цябе ёсць новыя прапановы здымацца?**

— На гэтым тыдні я выязджаю ў Маскву і там будзе нешта вядома. Пакуль няма.

**— А якую ты хацела б атрымаць ролю?**

— Ёсць жаданне сыграць у добрай камедыйнай стужцы. Я з задавальненнем згаджуся на тое, што мне запрапануюць. Галоўнае — каб гэта была неардынарная, цікавая роля.

**— Што змянілася ў тваім жыцці за апошні год?**

— Я атрымала прыз! А калі быць сур'ёзнай, займаюся сям'ёй. Ёсць сын. Ён пакуль размаўляе толькі на амерыканскай мове, спадзяюся, з цягам часу дабярэцца і да рускай. Вясной гэтага года прыязджала сюды на агучванне стужкі "З пекла ў пекла".

**— А табе самой спадабаўся фільм "З пекла ў пекла"?**

— Вядома. Бо тут паказаны неардынарны лёс людзей. Але, на жаль, фільм не выйшаў у шырокі пракат і яго глядзелі нямногія. Я лічу, падобныя стужкі трэба дэманстраваць як мага часцей, бо яны вучаць дабрыні. А калі казаць шчыра, я не магу глядзець свае фільмы — таму, што я бачу закадравае жыццё.

**— Ты цяпер жывеш у Амерыцы, але ў цябе тут шмат сяброў...**

— Мы даволі часта тэлефануем адзін аднаму. Вось, да прыкладу, мне не так даўно званіў Армен Джыгарханян.

**— А вершы табе прысвячаюць?**

— На жаль, не. Але, як кожная актрыса, спадзяюся, што будуць.

**— Мне казалі, што ты вельмі не любіш журналістаў. З чым гэта звязана?**

— Маёй персоне шанцуе на ўсялякія журналісцкія кур'ёзы — увесь час прозвішча блытаюць. А нядаўна мне патэлефанавалі сябры і сказалі, што яны цяпер будуць мяне называць Анка-кулямётчыца. Я пытаюся: чаму? А яны кажуць, што ў газеце "Экспрэс" адзін журналіст напісаў пра фестываль і што галоўны прыз за акцёрскую працу атрымала... Ана Клюка. Я вельмі доўга смяялася — гэта проста нейкая карма! А калі я прыехала сюды, мне паказалі стужку з кінафестывалем "Кінатаўр"... І я зразумела, чаму журналіст напісаў Ана замест Ала. Бо пасля таго, як аб'явілі маё прозвішча, як пераможцы конкурсу, паказалі кадры з фільма "З пекла ў пекла". Але там мяне не было! Паказалі нямецкую актрысу — Ану Клінк! І таму ў выпадку з "Экспрэсам", я думаю, пра мяне пісаў карэспандэнт з добрым адчуваннем гумару. Але іншыя выданні...

**— Спадзяюся, з нашым інтэрв'ю не будзе ніякіх кур'ёзаў. Дзякуй за размову.**

* * *

На жаль, наша сустрэча ў гэты раз была даволі непрацяглай, бо час Алы Клюкі быў распісаны літаральна па хвілінах. І гэтае караценькае інтэрв'ю было запісана паміж дзвюма сустрэчамі.

ЛЯ ФАНТАНА

## З ПАКАЛЕННЯ, ЯКОЕ ВЕРЫЛА Ў ІДЭАЛЫ...

**Ефрасіння БОНДАРАВА, мастацтвазнаўца**

Іх, шасцідзесятнікаў, цяпер называюць летуценнікамі і ідэалістамі, абвінавачваюць у ілюзіях, якія яны лічылі рэчаіснасцю. Але яны шчыра верылі ў ідэал, які кожны мастак павінен адшукаць у гісторыі або ў сучаснасці і ўвасобіць яго ў мастацкіх вобразах. Да гэтага пакалення належаў і заслужаны дзеяч мастацтваў БССР кінарэжысёр Барыс Міхайлавіч Сцяпанаў.

Ягоныя фільмы "Альпійская балада", "Воблакі", "Я, Францыск Скарына", "Бацька", "Воўчая зграя", "Гарантую жыццё", "Дзяржаўная мяжа" сведчаць кожны пасвойму — пра мэтанакіраваны рух рэжысёра насустрач гэтаму ідэалу. Сам Б.Сцяпанаў сваю мастакоўскую задачу выказаў у словах, што ў наш час здаюцца красамоўнымі: "паказваць вяршыні чалавечага духу". І першым крокам на гэтым шляху была дэбютная навела "Сакратар павятовага камітэта" ў кінаальманаху "Аповеды пра юнацтва" (1961 г.) маладых рэжысёраў, аператараў, мастакоў, што прыйшлі на "Беларусьфільм" з вышэйшай прафесійнай кінашколы — Усесаюзнага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі.



*Рабочы момант фільма "Я, Францыск Скарына". Злева: артыстка Г.Віркова і рэжысёр Б.Сцяпанаў, у глыбіні справа — мастак У.Дзяменцьеў.*

Узнёслы, ад'язджаў Барыс Сцяпанаў у экспедыцыю на Палессе — радаваўся, што трапіў у групу майстра, чые жыццярадасныя музычныя карціны "Шукальнікі шчасця" і "Маё каханне" яму падабаліся. Усцешвала таксама і тое, што пазнаёміцца з Беларуссю, яе запаветнымі мясцінамі. Але калі стужка выйшла на экран, стала відавочна, што фільм атрымаўся лірычным паводле настрою, але банальным паводле канфліктаў. "Камедыя патрабуе асаблівага даравання, мабыць, у мяне яго няма", — прызнаваўся Б.Сцяпанаў пасля першай спробы працы над камедыяй. І больш ён да гэтага жанру не вяртаўся.

Сцяпанаў звярнуўся да гераіка-рамантычнай аповесці Васіля Быкава "Альпійская балада". Калі яна ў 1956 г. з'явілася на экране, стала бачна: і рэжысёр-пастаноўшчык, і аператар Анатоль Забалоцкі здзейсніліся як мастакі.Назіраючы за імі падчас прэм'еры "Альпійскай балады" ў Доме кіно, я бачыла іхнія ззяючыя твары, нескрываную радасць ад таго, што зала разумела пачуцці, якія перажывалі героі, што "вяршыні чалавечага духу", да якіх імкнуўся рэжысёр разам з аўтарам аповесці, набылі эмацыйна-бачнае аблічча і дзякуючы гэтаму лёс уцекачоў з фашысцкага лагера — савецкага салдата-беларуса Івана Цярэшкі і італьянкі Джуліі Навелі — стаў блізкім тым, хто сядзеў у кіназале.

— Калі мы шукалі выканаўцаў галоўных роляў, — казаў рэжысёр падчас абмеркавання фільма, — галоўнае, чаго мы дамагаліся, — гэта акцёрскай індывідуальнасці, што раскрылася б праз натуральныя праявы ўсёй гамы пачуццяў герояў. Ад страху падчас пагоні, надзеі на выратаванне, якое абяцалі застыглыя ў сваёй велічнасці Альпы, — да подзвігу Івана. Кадры на вяршыні заснежанай гары, дзе апынуліся героі і дзе Іван, ратуючы Джулію, зрабіў крок насустрач раз'юшаным аўчаркам, — гэта кульмінацыя дзеяння, увасабленне ідэі, да якой імкнуліся аўтары фільма В.Быкаў, Б.Сцяпанаў, А.Забалоцкі, акцёры Любоў Румянцава і Станіслаў Любшын. Праз "Альпійскую баладу" яны адкрылі свае дараванні і сваю чалавечую абаяльнасць. "Альпійская балада" была адным з першых беларускіх пасляваенных фільмаў, адзначаных крытыкай як сапраўды нацыянальныя, пра што сведчаць і міжнародныя фестывалі: у Маскве і ў Дэлі. А для творчасці Барыса Сцяпанава гэтая стужка — бадай, найбольшае набліжэнне да таго ідэалу, да якога ён імкнуўся.

Прынцыпова важнай для рэжысёра была задача, якую ён вырашаў у фільме "Я, Францыск Скарына" паводле сцэнарыя М.Садковіча (1969 г.). Падчас складанай "працы з эпохай" важнейшым момантам быў выбар акцёра, які здолеў бы ўвасобіць у вобразе беларускага асветніка шматстайнасць прататыпа, навукоўца, патрыёта, чалавека "ўзвышаных думак і страсцей", якім яго разумеў пастаноўшчык. Былі прагледжаны многія фільмы, спектаклі, фотаальбомы. І, нарэшце, — Алег Янкоўскі, які пачынаў тады сваё "ўзыходжанне на творчы Алімп". Рэжысёр убачыў у ім асобу з высокімі ідэаламі і, адначасова, са звычайнымі чалавечымі страсцямі. Разам з аператарам У.Нікалаевым, мастаком У.Дзяменцьевым, дэкаратарамі і касцюмерамі пастаноўшчык шукаў вобраз эпохі, калі Скарына вучыўся, друкаваў кнігі, кахаў, адстойваў свае погляды на свет і чалавека. Шмат у чым акцёр апраўдаў спадзяванні рэжысёра, хоць і лічыў, што не ўсе задачы "вырашыліся на ўзроўні жаданняў". Супакойвала тое, што Скарына атрымаўся адухоўленым і прывабным.

Іншы герой і характар — у фільме "Бацька". Акцёр Юрый Гарабец стварaў вобраз не толькі смелага партызанскага камандзіра, але і бацькі, які перажыў найцяжэйшую драму — страту чатырох дзяцей, расстраляных акупантамі. На гэтай трагічнай сітуацыі і будуецца драматургія фільма, а ўвасабленне яе — на аднаўленні падзей з дакументальнай дакладнасцю.

Не развітаўся Барыс Міхайлавіч і з традыцыйным кіно. За чатыры гады (1980 — 1984) ён паставіў чатыры двухсерыйныя тэлевізійныя карціны "Дзяржаўная мяжа" пра стварэнне савецкіх памежных войскаў.

У цяжкія гады рэарганізацыі кіно рэжысёр Сцяпанаў пасля доўгіх разваг спыніўся на п'есе У.Бутрамеева пра беларускага мысляра XVII стагоддзя Казіміра Лышчынскага, які быў спалены на вогнішчы за трактат "Пра неіснаванне бога". Разам з кінадраматургам Ф.Коневым яны пачалі працаваць над сцэнарыем "Рукапісы не гараць". У 1991 г. пачаліся здымкі. Але скончыць пастаноўку Барысу Міхайлавічу не давялося. Фільм выйшаў на экраны ў 1993 годзе пад назваю "...Аз воздам", у цітрах якога прозвішча Сцяпанава ўжо было ў жалобнай рамцы (карціну заканчвалі рэжысёры М.Касымава і Б.Шадурскі).

Я ведала Барыса Сцяпанава ў розныя перыяды ягонай працы на студыі, бачыла яго радасным і сумным, самаўпэўненым і разгубленым. А тыя, хто сабраўся на вечарыну, прысвечаную ягонай памяці (з нагоды 70-гадовага юбілею), калегі-кінематаграфісты называлі яго мяккім і добразычлівым, інтэлігентным. На сходах і пленумах кінематаграфістаў ён рэдка выступаў, лічачы, што "рэжысёры павінны размаўляць фільмамі". Апошні раз я сустрэла яго на кінастудыі напярэдадні ад'езду здымачнай групы фільма "Рукапісы не гараць" у экспедыцыю. Было заўважна, што ён хворы, састарэў. І толькі белазубая ўсмешка нагадвала пра таго прыгожага юнака, якога я ўпершыню ўбачыла ў сярэдзіне 50-х. Мастакі адыходзяць, а іхнія творы застаюцца.

Фільмы Барыса Сцяпанава — незабыўныя старонкі нашага кіно.

ПАСЛЯ БАЛЮ

Жанна ВАСАНСКАЯ

# “МЫ НАШ, МЫ НОВЫЙ...”

Вось і “адгалівудзіў” XX Маскоўскі кінафестываль. На гэты раз самай настальгічнай падзеяй імпрэзы, безумоўна, стала рэтраспектыва індыйскага кіно. Гледачы зноў атрымалі шанс паплакаць на фільмах Раджа Капура, Ш'яма Бенегала... Але ж калі звярнуцца да даведкі, то адразу ж убачыш, што гісторыя Маскоўскага аніякім чынам не звязана з лаўрэацкімі намінацыямі індыйскіх кінематаграфістаў. У асноўным пераможцамі фестывалю ў гісторыі савецкага кінематографа былі нашыя стужкі: “Чапаеў”, “Юнацтва Максіма” (1935 год), “Лёс чалавека” (1959), “Вайна і мір” (1961), “Ідзі і глядзі” (1985). Адзіным сапраўдным шэдэўрам сусветнага кіно, гонарам фестывалю застаецца да гэтай пары стужка Федэрыка Феліні “8 1/2”, якая трапіла ў Маскву ў 1963 годзе.

У інфармацыйным паказе прайшлі пяць галоўных хітоў года: стужка Лурмана “Рамэа + Джульета Уільяма Шэкспіра”, сусветная прэм'ера “Бэтмана Робіна” Джоэла Шумахера, “На іголцы” (Trainspotting) — самы модны тынэйджэраўскі фільм, “Турэмны самалёт” з Нікаласам Кэйджам, “Усе кажуць, што я кахаю цябе” Вудзі Алена. Цікава, а як расійская крытыка адрэагуе на стужку “Тэлепартыя” амерыканскага рэжысёра Радзівона Нахапетава, рускага з паходжання?

Па ўсім было відаць, што XX Маскоўскі кінафестываль — асноўная падзея маскоўскага жыцця, але — не міжнародная. З сяброўскіх нам італьянскіх зорак прыязджала Джына Лалабрыджыда, якая гадоў дваццаць як перастала здымацца ў кіно. У гэтага кінафэсту заўсёды быў сацыялістычны твар. Са стратай сацыялізму Маскоўскі кінафэст згубіў і свой твар. У часы перабудовы сюды заўсёды прыязджалі зоркі. Але ж цяпер няма цікавасці да кінафэсту, а новага сэнсу форум не набыў.

А што калі новы твар Маскоўскага кінафестывалю — гэта твар старшыні журы Алега Меншыкава, чэхаўскі? Не сябры, не спадзявайцеся! Калі побач з помнікам вялікаму Пушкіну плануецца “пасадзіць” манументальную і сакраментальную Джыну Лолабрыджыду, то Маскоўскі кінафестываль трэба разглядаць як дарагую рэлікву, завяваную люмпенамі-аматарамі кіно класа “А”. А рэлквії трэба берагчы.

Урэшце, калі няма стужак, сусветных імён ад кінематографа, акрамя расійскіх, дык на першы план мусіла выйсці тусоўка... Дарэчы, страсці падагрэлі самі арганізатары: Сяргей Салаўёў і Аляксандр Абдулаў. У добра эрэжысаванай праграме “Тэма” яе аўтар і вядучы Юлій Гусман прыдумаў і разыграў скандальчык як па нотах. Гэта быў магутны спектакль пра мужчынскае сяброўства і вялікую справу, якую шмат гадоў падымаюць вышэй названых героі. Вялікі імправізатар Юлій Гусман склікаў як бы звычайную прэс-канферэнцыю, на якой агрэсіўныя выпады ў бок крытыкаў змяняліся лірычнымі пасажамі пра саміх сябе, такіх усеагульна любімых.

Здаецца, прэс-цэнтр кінафестывалю сёлета размясціўся ў начным клубе “Утопія” не выпадкова...

Толькі не ўсё так сумна... Пры адсутнасці стужак арганізатары правялі шмат акцый. Напрыклад, у “Астанкіна” прайшла акцыя па барацьбе з відэапірацтвам, якой амерыканцы, спадзяюся, засталіся задаволены. На сцэну выйшлі тэлевядучыя першага канала і пакідалі ў коўш экскаватара пірацкія відэакасеты. Узамен кожны атрымаў “Старыя песні пра галоўнае”, якія і так ніхто не купляе.

**ЛАЎРЭАТЫ XX МАСКОЎСКАГА КІНАФЕСТЫВАЛЮ**

***Прыз “Святы Георгій” атрымалі:***

Сафі Ларэн (Італія)
Роберт дэ Ніра (ЗША)
АндронКанчалоўскі (Расія)
Ціль Швайгер (Германія)
Ізабэль Адас (Іспанія)
Янаш Стас (Венгрыя).

***Прыз “Сярэбраны Святы Георгій”:***

Аляксандр Сакураў (Расія).

***Галоўны прыз “Залаты Святы Георгій”:***

Джэры Закс (ЗША).

КІТЫ

Ігар КЛОКАЎ
Юрый ПЛЮШЧАЎ (фота)

# ВІЯЛЕТА ВАЛЕРЫ НА ЗЛОМЕ СТАГОДДЗЯЎ

## (новая “Травіята” ў Нацыянальнай оперы)

...Яшчэ ў красавіку беларускай “Травіяце” апладзіравалі ў Бразіліі, а ужо 17 ліпеня родныя сцены страсянуліся ад авацый з нагоды новай рэалізацыі шэдэўра Вердзі. Так, “Травіята” з'явілася ў новым абліччы — дзякуючы цікаваму па складзе калектыву пастаноўшчыкаў на чале з музычным кіраўніком Аляксандрам Анісімавым і рэжысёрам Сусаннай Цырук.

Прэм'еру чакалі, там і тут у газетах мільгалі інтэрв'ю і анонсы — у “Культуры”, зразумела, таксама. Аднак жа спектакль засланіў сабой папярэднія меркаванні. Агульнае ўражанне пасля першага вечара — прыемнае здзіўленне. Магчыма, ці папярэдняя рэалізацыя оперы ў нечым часткова абмежаваная — прынамсі, няма той сацыяльнай абвостранасці, з-за якой некалі опера не была адразу прынята публікай на радзіме кампазітара. (Першае прадстаўленне “Травіяты” ў Венецыі 6 сакавіка 1853 года правалілася, аўтара абвінавачвалі ў “садзейнічанні распусніцкаму ўплыву французскай літаратуры і ў парушэнні оперных традыцый”, што праявілася ў рэалістычных карцінах тагачаснага жыцця. Магчыма, каб крыху паменшыць папрокі ад сучаснікаў, у лібрэта час дзеяння і быў пазначаны годам 1700-м.)

Пастаноўшчыкі вырашылі засяродзіць увагу цалкам на любоўнай гісторыі, што разгортваецца пад знакам перайтвараючай сілы высакароднага кахання. Гэты спектакль аб эвалюцыі Віялеты Валеры ад халоднай беспрынцыповай куртызанкі, травіяты (“traviata” — італ. “распусніца”) да самаахвярнай жанчыны, здольнай ацаніць шчырае пачуццё і адгукнуцца на яго. Па сутнасці, упершыню ў нашай оперы не хаваецца жаночае цела, як у сцэнах “пачуццёвых”, так і ў стварэнні больш-менш натуральнай атмасферы асяроддзя герояў. Наогул, як на маю думку, відовішча атрымалася залішне сентыментальнае, але ж на тое і опера. Можа, на гэта і быў галоўны разлік пастаноўшчыкаў: нельга ж не заўважаць, як наш народ некалькі гадоў запар прыпадае да тэлевізараў, каб акунуцца ў “мыльныя оперы”, лацінаамерыканскія серыялы — дрэннае адлюстраванне оперы сапраўднай...

Строгія крытычныя разборы пастаноўкі яшчэ наперадзе, тры першыя супер-аншлагавыя спектаклі дазваляюць лічыць, што сур'ёзныя крытыкі не змогуць не заўважыць новую “Травіяту”. Выканаўцы галоўных партый (іх аж чатыры склады) таксама дачакаюцца, напэўна, больш-менш вострых заўваг у свой адрас, калі кожны атрымае магчымасць “выказацца”, — пакуль што праспявалі толькі Наталля Кастэнка, Вікторыя Курбацкая (Віялета) і Сяргей Франкоўскі (Альфрэд). А вось у пастаноўшчыкаў магчымасцяў дадаць што-небудзь да відовішча, можа, і не будзе, таму паслухаем іх цяпер, пасля першых віншаванняў.

***Аляксандр Анісімаў:***

— Я паставіў задачу, каб музыканты “ўбачылі” ноты “свежым вокам”. Мы паспрабавалі ўсе нюансы, штрыхі прачытаць, як упершыню. “Травіята” ў нас была неяк трошкі “забоўтана”, “зашарманена”, цяпер мы як музыканты зрабілі спробу ўдыхнуць жыццё ў гучанне.

Шчыра кажучы, наш спектакль — не горшы за любы іншы ў лепшых тэатрах свету, можа, гэта накат занадта сціпла сказана. Увогуле іншаземцы, што бываюць на спектаклях у нашым тэатры, кажуць: падобнае відовішча мы бачым у іншых краінах за вялікія грошы. Наша опера — танная па білетах, але вельмі дарагая па іншых крытэрыях...

***Сусанна Цырук:***

— ... Тое, што да апошняга часу не здымалі папярэднюю пастаноўку, перашкаджала не мне як пастаноўшчыку, гэта перашкаджала акцёрам, бо цяжка рабіць мізансцэну па-новаму, калі за некалькі гадоў прызвычаішся да старой.

Як склалася супрацоўніцтва з Анісімавым? Па-першае, гэта ён мяне абраў на пастаноўку — разам з Сяргеем Альбертавічам Картэсам. Аляксандр Міхайлавіч — чалавек вопытны і напэўна бачыў, як я працую — у якасці другога рэжысёра ў папярэдніх пастаноўках. Я лічу, што я добра адукаваная, працую прафесійна і вельмі люблю акцёраў. А яны гэта адчуваюць, адчуваюць, калі ты працуеш не толькі на сябе, але і на іх. Я б ніколі не зрабіла тых “смелых” мізансцэн з распрананнем, калі б фактура выканаўцаў не дазваляла гэтага, калі б яны выглядалі ў нявыгадным святле. Магчыма, потым бы і шкадавала, бо так уразіўшая многіх мізансцэна прыдумана, па сутнасці, не дзеля стрыптызу, а дзеля вырашэння мастацкай задачы. Але ж я б здолела знайсці іншы шлях яе вырашэння. Я не ствараю штучную дыстанцыю з акцёрамі і вельмі дэмакратычная ў адносінах з імі — і не толькі з імі. Калі ў мяне бабулька не паспела прынесці рэквізіт, я на яе не крычу, я ёй дапамагаю... З другога боку, з мяне не падае карона, калі дадводзіцца працаваць другім рэжысёрам, бо я працую з людзьмі, якіх паважаю.

Гэта была праца каманды. На маю думку, лепшы варыянт — гэта калі калектыў працуе на агульную мэту. Таму, напрыклад, я заўсёды ажыццяўляю пастаноўкі са “сваім” балетмайстрам — Ленай Дзмітрыевай-Лаўрыновіч. Бо можна запрасіць вельмі прафесійнага харэографа і атрымаць добрыя ўстаўныя балетныя нумары, якія той зробіць для самазадавальнення. Але мне патрэбна, каб харэаграфія была ўплецена ў тканіну спектакля — гэта асаблівы талент і асаблівая прафесія...

***Алена Дзмітрыева-Лаўрыновіч, харэограф:***

— Увогуле гэта мой адзінаццаты спектакль. Перад тым былі дзяцічыя оперы “Пітэр Пэн”, “Кот у ботах”, “Баба-Яга”, танцавальныя нумары ў операх “Кармэн”, “Іаланта”...

З “Травіятай” цяжкасці былі ў тым, што трупа балета паехала на гастролі і танцавальныя нумары рабіліся “ўласнымі” сіламі опернай трупы. Можа, вынік і дасць падставу да крытыкі спектакля з боку харэаграфіі, але выбару ў нас не было...

Асобнай гаворкі заслугоўвае праца мастакоў. Калі б яе выказаць адным словам, то гэтае слова было б — “смелая”. Але адным — не хацелася б. Людміла Ганчарова, на маю думку, зазначыла сваю прысутнасць і ў рэжысёрскай рэалізацыі. Кампактная канструкцыя дэкарацый ушчыльную звязана з пабудовай мізансцэн, са стылістыкай дзеяння. Між тым мастацкая стылістыка таксама невыпадковая: стыль “мадэрн” адзначае час дзеяння: канец XIX — пачатак XX стагоддзя, пара хваляванняў, смуты, дэкадансу, пара пераломy стагоддзяў — вельмі падобная да нашага часу.

***Людміла Ганчарова, мастак-пастаноўшчык:***

— Дэкарацыі, нягледзячы на ўяўную грувасткасць — вельмі лёгкія, зробленыя з новых матэрыялаў, нейкі час іх нават не прапускалі пажарныя (гэтая “лёгкасць” звязаная з магчымасцямі перавозу на іншыя сцэны, на гастролі). “Мыльніца”, як яе ўжо назвалі (трансфармуемае збудаванне ў цэнтры сцэны, галоўны элемент дэкарацый), — гэта і пудраніца на століку ў куртызанкі, і люстэрка, і стол, і жырандоля. Потым алькоў, ложак — тое, што бывае ў спальні. А ў другім акце — гэта нават альтанка. Ну і ў рэшце рэшт гэта і вобраз “крыштальнай труны”, якая адчынілася на пачатку і зачыняецца ў канцы. Дакладней, я мела на ўвазе не “труну”, а хутчэй нейкі неакрэслены вобраз часу, масток праз яго... Супрацоўніцтва з мастаком па касцюмах было лёгкае — мы адна адной давалі вялічэ-э-эзную прастору творчасці...

***Элеанора Грыгарук, мастак па касцюмах:***

— Мы трошкі асучаснілі “Травіяту”, у дробязях і гарнітурах падкрэслілі стыль пачатку стагоддзя... У параўнанні з папярэднімі спектаклямі — “Рыгалета”, “Карсар”, “Кавалер ружаў”, “Майстар і Маргарыта”, “Дзікае паляванне караля Стаха” — праца была не менш цікавая. Аднак опера заўсёды паглынае столькі сіл!

На рэпліку: “Што за феерверк фантазіі ў вашых карнавальных касцюмах!” — зазначыла задаволена і загадкава: “То вы яшчэ не бачылі сапраўднага феерверка! Ён — наперадзе!”

На заканчэнне засталося падкрэсліць: новая “Травіята” хоць і не дадала новага радка да рэпертуарнага спіска Нацыянальнай оперы, безумоўна, гэты рэпертуар упрыгожыла і дае досыць падстаў да віншаванняў. Гэта цалкам “экспартны” варыянт оперы — на мове арыгінала, у сучасных кампактных дэкарацыях. Падобна, Нацыянальная опера, услед за Нацыянальным балетам з яго́наймі таксама “экспартнай”, па ўсім мяркуючы, прэм'ерай “Раймонда” рыхтуецца пашыраць сваю гастрольную праграму — магчыма, напярэдадні пастаноўкі будынка тэатра на рэканструкцыю.

**Вядучая рубрыкі Жанна ВАСАНСКАЯ**

# З ВЕРАЙ У ЛЮДЗЕЙ


С.Дзьяканаў. "Пара цвіцення". Палатно, алей. 1997.

Звычайна падарункі робяць імянінніку. Але на гэты раз усё было інакш. Віноўнік урачыстасці зрабіў падарунак нашаму гораду. Кожны мінчанін можа цяпер зайсці ў Палац мастацтва, каб палюбавацца на жывапіс Станіслава Дзьяканава. Выстава, адкрыццё якой адбылося 23 ліпеня, прысвечана яго 65-годдзю.

Мастак нарадзіўся ў Бранску, але Беларусь стала яго другой радзімай, калі ў 1974 годзе ён пераехаў у Гомель. Гэта можна ўбачыць на яго карцінах, дзе прысутнічаюць пераважна звычайныя беларускія пейзажы. Увогуле, менавіта пейзажы, асабліва маленькія, зрабілі на мяне самае моцнае ўражанне. Мастак не проста пераносіць на палатно нейкі куток прыроды, не проста фіксуе яго. Не, ён па-свойму асэнсоўвае, адчувае, перажывае кожнае імгненне: парыў ветру, бляск снегу, блікі сонца на вадзе. Ён кожны раз па-новаму, непрадузята падыходзіць да адлюстравання пейзажу, таму і атрымліваецца розны настрой у карцін нават з аднолькавымі назвамі.

Станіслаў Дзьяканаў не абмяжоўвае сваю творчасць толькі пейзажамі. Яму аднолькава добра ўдаюцца і партрэты, і нацюрморты, і тэматычныя карціны. І на кожнай з іх высвятляюцца ўсё новыя і новыя грані майстэрства мастака. Яго нацюрмортам уласціва нечаканае спалучэнне кампанентаў, што дае магчымасць пазбягаць іх статычнасці. Яго партрэты, асабліва жаночыя, кранаюць сваёй цеплынёй і задумлівасцю.

Лепшым работам Станіслава Дзьяканава ўласціва адухоўленасць, гуманістычны пафас, светлая вера ў людзей, яго землякоў, якія і ў чорную гадзіну чарнобыльскай бяды застаюцца Людзьмі з вялікай літары.

**Ірына АНТАНОВІЧ**
**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**

# "У НАС ЁСЦЬ ШМАТ ЦІКАВЫХ АСОБ..."

Рыгор Сафронаў — малады мастак. Каля двух гадоў працуе выкладчыкам у Калінкавіцкай дзіцячай школе мастацтваў. Да гэтага былі пошукі сябе і ў жыцці, і ў творчасці: чарада вучэбных устаноў і месцаў працы, якія дадалі жыццёвага вопыту, і шэраг творчых работ, выстаў.

Адметна, што Сафронаў ніколі не замыкаўся ў сваім вузкім коле, імкнуўся несці мастацтва, што называецца, "у масы". І раней, і цяпер яго акружала і акружае моладзь, а яго мастацкая майстэрня з'яўляецца неафіцыйным цэнтрам культурнага жыцця горада.

Не адзін год Рыгор Сафронаў і паэт Яўген Бабіч выношвалі ідэю стварэння ў Калінкавічах клуба творчай моладзі, рабілі захады па ажыццяўленню, цярпелі няўдачы, але пэўныя зрухі ўсё ж былі. Урэшце, у сакавіку гэтага года пры Калінкавіцкім краязнаўчым музеі пры садзейнічанні гарадскога аддзела культуры і аддзела па справах моладзі быў адкрыты клуб творчай моладзі пад назвай "Правінцыял".

Касцяк клуба складаюць дзесяць чалавек, але сюды пастаянна прыходзяць творчыя людзі і проста тыя, хто цікавіцца мастацтвам. Маладыя мастакі, музыканты, літаратары аб'ядналіся, каб разам папулярызаваць здабыткі, і не толькі свае. "Нам хочацца, каб людзі адарваліся ад звыклай схемы — работа, дом, тэлевізар. У тым, што ў нашым горадзе, хоць ён і невялікі, ёсць шмат цікавых асоб, — упэўнены. Іх проста не відаць", — кажуць кіраўнікі клуба.

У членаў клуба, які заснавалі "обветренный жизнью художник и тот, кто немного поэт", ёсць многа зусім канкрэтных планаў, і перашкодзіць іх ажыццяўленню можа, хіба што, востры недахоп грошай...

**Ірына ТРЫПУЗАВА**

# ЯШЧЭ РАЗ УСПОМНІЛІ...

24 ліпеня ў сталічным кінатэатры "Змена" па ініцыятыве ягонага дырэктара Ніны Палуян адбыўся паказ дзвюх дакументальных стужак, прысвечаных Марку Шагалу. Былі запрошаны рэжысёры абедзвюх карцін: Юрый Гарулёў ("Душа яго засталася тут") і Уладзімір Бокун ("Калі Віцебск быў Парыжам"), іх выступленням папярэднічаў расказ аб жыццёвым шляху і творчасці Шагала, падрыхтаваны заслужаным дзеячам мастацтваў, мастацтвазнаўцам, членам міжнароднага журы II Шагалаўскага пленэру Барысам Крэпакам.

Аб ролі Марка Шагала ў сусветным мастацтве XX стагоддзя, аб яго сувязях з зямлёй беларусаў, з культурамі Расіі, Францыі і Ізраіля гаварыў заслужаны архітэктар Беларусі, лаўрэат Ленінскай прэміі Леанід Левін. Ён слушна падкрэсліў, што Шагал — гэта мастак, які належыць не толькі нашай радзіме — Беларусі, як яе годны сын, але і ўсяму свету.

Не сакрэт, што доўгія часы было менавіта так, што людзі, якія выйшлі з Беларусі, праславілі яе ў свеце, заставаліся невядомымі для саміх беларусаў. Першым буйным крокам на шляху да лікбеза ў галіне культуры сталі прайшоўшыя ў Віцебску ў 1991 годзе Першыя Шагалаўскія чытанні, у 1994 годзе — Міжнародны Шагалаўскі пленэр і, нарэшце, сёлетні II пленэр, прысвечаны 110-годдзю з дня нараджэння Марка Шагала. Прагляд, арганізаваны пры садзеянні суполкі "Беларуская хатка" і Ізраільскага культурнага цэнтра, выклікаў непадробную цікавасць у знаўцаў культуры і прыхільнікаў творчасці Шагала і стаў сапраўдным падарункам для тых, хто не здолеў наведаць Віцебск у пачатку ліпеня.

Прысутныя задавалі шмат пытанняў, але яны больш датычыліся адносін Шагала да рэвалюцыі, узаемаадносін мастака з савецкай уладай, ад'езду з Віцебска і яго прычынаў, прыналежнасці да нацыі. "Дыскусіі" завяршыліся слушнай думкай, што Шагал — мастак свету, і "прыватызаваць" яго ў спрэчках з Расіяй ці Францыяй — гэта не тая справа, дзеля якой наладжана імпрэза.

Пасля прагляду фільмаў прысутныя шчыра дзякавалі іх стваральнікам, выказвалі пажаданне сустракацца часцей.

Будзем чакаць...

**Ганна ДАШКЕВІЧ**

# ВЯРТАННЕ ЯНА ГОЛАНДА

Ацэньваючы творчую спадчыну Яна Голанда, можна заўважыць, што ў большасці сачыненняў майстар застаўся прыхільнікам класічнага стылю. Аб'яднаўшы ў сваім творчым і жыццёвым лёсе некалькі эпох і культур, ён стаўся для нашага мастацтва своеасаблівым перакладчыкам у тым дыялогу паміж заходне- і ўсходнееўрапейскімі музычнымі мовамі і традыцыямі, вынікам якога з'явіліся многія феномены мясцовай музычна-прафесійнай культуры. Усебаковае даследаванне гэтых феноменаў яшчэ, несумненна, наперадзе. А пакуль, як ушанаванне кампазітара і з нагоды яго леташняга юбілею, творчае аб'яднанне "Беларуская капэла" рыхтуе вялікі фестываль, прысвечаны творчасці Голанда. Ён адбудзецца ў лістападзе гэтага года і аб'яднае ў сваіх канцэртах амаль усе творы кампазітара, напісаныя ім у розныя перыяды жыцця. Большасць іх будзе выканана ў нас упершыню, бо толькі нядаўна ў Беларусь вярнуліся (у выглядзе ксеракопій) прыжыццёвыя нотныя выданні і рукапісы кампазітара. Адшукаць іх мне давялося ў сховішчах Вільні і Варшавы, Берліна, Франкфурта-на-Майне і Бруселя падчас працы па праграме "Вяртанне", распрацаванай у Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі.

Калі мы спрабуем уявіць мастацкую дамінанту XVIII стагоддзя, адразу звяртаемся да музыкі. Музыкі Моцарта і Глюка, Гайдна і Бетховена, Бакерыні і Паізіела. Бо менавіта музычнае мастацтва найбольш поўна ўвасобіла дух эпохі, у якой рацыянальнае набыло эмацыянальную афарбоўку, а эмоцыі ўвасобіліся ў вытанчанай інтэлектуальнай форме. У сваю чаргу эпоха, што спарадзіла тытанаў думкі — Вальтэра і Дзідро, Русо і Канта, усё ж самае запаветнае пра сябе выказала менавіта на мове гукаў. І да сённяшняга дня няма нічога прыгажэйшага, чым гэты гукавы арэол эпохі, вечны ў сваёй прыгажосці і мастацкай дасканаласці.

Той час — XVIII стагоддзе — сапраўды быў часам, калі музыка не ведала рэгіянальных і нацыянальных межаў: чэшскія музыканты працавалі ў Мангейме, нямецкія — у Вене і Лондане, італьянскія — у Парыжы і Пецярбургу. Бо ў XVIII стагоддзі музыка набыла асаблівы універсалізм, носьбітам якога стаўся класічны стыль, транснацыянальны і адзіны для розных рэгіянальных школ. У другой палове стагоддзя гэты стыль набыў распаўсюджанне ў музычным мастацтве ўсіх еўрапейскіх краін, не абмінуўшы, натуральна, і беларускія землі, што ўваходзілі ў склад Вялікага княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. Як вядома, у той час на Беларусі функцыянавала мноства музычных тэатраў, якія належалі заможным магнацкім родам — Радзівілам, Агінскім, Сапегам. У беларускіх гарадах — Слоніме і Гародні, Нясвіжы і Слуцку — у садружнасці з мясцовымі таленавітымі музыкантамі працавалі вядомыя замежныя кампазітары і выканаўцы: чэхі Ян Дусік і Эрнст Ванжура, італьянцы Джаакіна Альберціні і Вінчэнца Нікаліні, французы Альфонс дэ Сальмаран і Максіміліян Дзюпрэ. Працяглы час жыў і працаваў тады на Беларусі і выдатны нямецкі кампазітар Ян Голанд. Яго выбітнае дараванне і прафесійнае майстэрства былі высока ацэнены Філіпам Эмануілам Бахам (сынам Іагана Себасцяна Баха), які неаднаразова запрашаў Голанда для ўдзелу ў сваіх славутых канцэртах, дзе гучала музыка вядучых заходнееўрапейскіх майстроў. Філіп Бах сам дырыжыраваў араторыяй Голанда і ўсяляк садзейнічаў назначэнню кампазітара на пост дырэктара Гамбургскай кафедры. Падчас працы ў Германіі Голанд напісаў шмат твораў: кантат, сімфоній, камерных вакальных мініяцюр рэлігійнага і свецкага зместу. У сачыненнях гэтай пары ён выявіў сябе як прадстаўнік берлінскай школы, для якой была характэрна асаблівая чысціня, "класічнасць" ва ўвасабленні музычных вобразаў, спалучэнне тонкага лірызму ў пачуццях з дакладнасцю і выверанасцю формы.

Імя Голанда ў свой час было шырока вядома і па-за межамі Германіі: невыпадкова менавіта на яго звярнуў увагу адзін з багацейшых мецэнатаў Усходняй Еўропы — Караль Радзівіл — уладальнік земляў на Беларусі, у Польшчы і Літве.


Партытура "Агаткі".



У пачатку 1780-х гадоў Радзівіл запрашае Голанда ў Нясвіж, — цэнтр сваіх латыфундый, дзе да таго часу ўжо існаваў вялікі тэатр з разнастайным оперна-балетным рэпертуарам. Тут быў высокапрафесійны аркестр, які выконваў сімфанічныя творы (у тым ліку і сімфоніі Гайдна, якія сам кампазітар даслаў Радзівілам). Голанд адразу становіцца капельмайстрам і кампазітарам нясвіжскага музычнага цэнтра і не пакідае яго на працягу 20 гадоў, час ад часу выязджаючы з канцэртамі ў Гародню і Варшаву. У Нясвіжы ён стварае балет і некалькі опер, у тым ліку і славутую "Агатку". Напісаны на лібрэта таленавітага нясвіжскага музыканта-аматара і літаратара Мацея Радзівіла, гэты твор стаўся першым узорам прафесійнай оперы, створанай на Беларусі. У свой час яна набыла вялікую папулярнасць у розных гарадах Рэчы Паспалітай, а сёння стала адным з улюбёных твораў аматараў старадаўняй музыкі.

Вядома, што прэм'ера "Агаткі" адбылася 17 верасня 1784 г., у дзень прыбыцця ў Нясвіж караля Рэчы Паспалітай Станіслава Аўгуста Панятоўскага. Манарх, які спавядаў ідэі міралюбства і класавай згоды, убачыў у оперы пераканаўчае ўвасабленне сваіх ідэй і ідэалаў. Лібрэта яе заснавана на гісторыі сялянкі-сіраты Агаткі, якой менавіта добры пан дапамог увасобіць сваю мару і знайсці шчасце з каханым — парабкам Антакам. Сюжэт гэты быў шмат у чым тыповы для опернага мастацтва эпохі Асветніцтва, якая ўзвысіла сялянскую дабрадзейнасць у ранг эталона дабра і духоўнай прыгажосці (як не прыгадаць тут "Вясковага чараўніка" Русо ў Францыі, "Лотхен пры двары" Хілера у Германіі, "Анюту" Папова ў Расіі). Але ў оперы Голанда вобраз сялянскай дзяўчыны атрымаўся такім вытанчаным і высакародным, што нават узвысіўся над сваімі прататыпамі (Калетай, Лотхен, Анютай) з названых вышэй опер. Гэтыя якасці надала гераіні менавіта музыка, поўная паэтычнай узнёсласці і лірызму. Твор Голанда-Радзівіла шмат у чым заснаваны на мясцовых рэаліях, якія, зрэшты, праявіліся галоўным чынам у яго сюжэце ды вобразах, а не ў музычнай мове. Але блізкасць дзеі да месца і часу яе сцэнічнага ўвасаблення ўсё роўна ўразіла публіку. А найбольш быў усхваляваны кароль дзяржавы, які напрыканцы імпрэзы нават прачытаў па-беларуску свой верш.

Застаецца толькі пажадаць фестывалю шчаслівага пачатку і падзякаваць тым, хто ўжо сёння аказаў тэхнічную і фінансавую дапамогу ў зборы матэрыялаў для яго: Міністэрству культуры Рэспублікі Беларусь і Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, Беларускаму інстытуту праблем культуры, Фундацыі імя Ю.Мяноўскага і Беларускаму фонду Сораса. І — "Беларускай капэле", якая ўжо некалькі месяцаў вядзе актыўную падрыхтоўку да фестывалю.

**Вольга ДАДЗІЁМАВА**

ЛІПЕНЬ—ЖНІВЕНЬ
ПРАЗ ПРЫЗМУ "БАГЕМНАГА" ШКЛА:
А ПРАБАЦЫІ
А ВАЦЫІ
А НТУРАЖ
А ЖЫЯТАЖ

# "СЛАВЯНСКІ БАЗАР-97" IN MEMORIUM

**Фестываль мастацтваў у Віцебску стаў гісторыяй. Але ж тыдзень "базарных" сустрэч пакінуў па сабе шмат успамінаў — рознага кшталту. Ніжэй — некаторыя з іх.**

### 1. "Ве-е-е-е-ельмі круты Іван" (Іван Дзямідаў)

Выпелегаваны твар — ніякім іншым выразам яго не акрэсліш. Стрыжка — "з дакладнасцю да далей міліметра", валасок да валаска. І зразумела, "улётныя" чорныя акуляры ў вузкай халоднай нікеліраванай аправе — Іван Дзямідаў у фае штаба фестывалю. Як вядома, "Стырнавы" "Музычнага абозу" цяпер кіруе абозам больш працяглым — шостым расійскім тэлеканалам.

**— Іван, ведаеце, ваш шосты канал карыстаецца ў Мінску папулярнасцю...**

— М-м-м...

**— Вас гэта "грэе"?**

— Так, мяне гэта вельмі "грэе"!

**— А ці ўлічваеце пашырэнне аўдыторыі за кошт беларусаў?**

— Не, мы будуем праграмы не на аўдыторыю, а па падзеях — ці ў вас шмат чаго адбываецца?

**— Часам — вельмі шмат...**

— Ну, то вы — шчаслівыя людзі!

І, фармальна павыбачаўшыся, падаўся да выйсця. Як потым высветлілася, не толькі са штаба — але і з Віцебска. Іван Дзямідаў быў заяўлены членам журы конкурсу маладых выканаўцаў. Аднак конкурсу не дачакаўся, у штабе казалі, што яго не задаволілі ўмовы ў гатэлі, дзе сапраўды да гэтага часу таго-сяго не хапае — "джакузі", можа і яшчэ чаго. Хаця ж большасць гасцей — і масквічоў, і замежных, нават арыстакратаў, — віцебскія гатэлі не адштурхнулі.

### 2. Арыстакратка эстрады (Алена Свірыдава)

**— Алена, у вас рэпутацыя адной з найбольш стыльных выканаўцаў...**

— Так, вось гэты стыль, напрыклад, можна назваць "арыстакрат у адпачынку" (паказвае на свой плашчык, вельмі падобны да купальнага халата). Сын майго сябра толькі што запытаўся: "Вы на сцэну так у халаціку і пойдзеце?"

**— Вы выступалі на канцэрце аркестра Фінберга, потым зніклі і аб'явіліся ўжо на заключным канцэрце, значна павесялеўшая — ці не ў Мінск вы ездзілі?**

— Так, у Мінск.

**— Значыць, у бацькоў усё добра, і ў сына — таксама?**

— Сын едзе адпачываць у Балгарыю, і мы вырашылі, што, калі вернецца, пераедзе жыць да мяне.

**— Конкурсную праграму "Базару" назіралі па тэлебачанні? Як ставіцеся да конкурсаў увогуле?**

— У мяне б здарыўся інфаркт, калі б я ўдзельнічала ў конкурсе! Наўрад ці я здолела б паказаць усе свае дасягненні. Мне вельмі шкада тых, хто бярэ ўдзел у конкурсах — гэта столькі непатрэбных перажыванняў, страхаў, нерваў. У рэшце рэшт такое спаборніцтва не зусім правільнае, бо мастацтва — гэта нешта іншае.

**— Але ж ці "хварэлі" за беларусаў?**

— Я — заўсёды за беларусаў!

**— А што вас звязвае з аркестрам Фінберга?**

— Мару зрабіць нешта агульнае, "глабальнае" — магчыма, праграму з маіх песень. Аркестр добры, добра гучыць, і ўвогуле — малайцы!

### 3. Вясёлкавыя вейкі (Ларыса Грыбалёва)

Велічэзныя, як крылы, штучныя вейкі ў колеры вясёлкі, блёсткі на скуры — у самых нечаканых месцах, памаранчавая кашулька-спадніца ды салатавыя сподні — самая экстравагантная і непрадказальная з беларускіх эстрадных дзяўчат, наша "анжэліка варум". Ларыса Грыбалёва ніяк не затрымлівалася за кулісамі, аддыхаўшыся, зноў выбягала на сцэну, каб праспяваць нешта з рэпертуару сваёй расійскай "старэйшай сястры". З вялікімі цяжкасцямі ўдалося мне задаць свае пытанні:

**— Колеры гарнітура — салатавы з памаранчам — даніна модзе?**

— На маю думку, гэта колеры жыцця — сонца і трава!

**— Куды накіроўваецеся пасля канцэрта?**

— На "Кодак" — "хаўтурыць", грошы зарабляць.

**— Як удаецца сумяшчаць усе гэтыя заняткі: працу на тэлебачанні — беларускім і расійскім, у аркестры, на "Кодаку"...**

— Калі б не была такая лянівая, я б яшчэ знайшла сабе пяць—шэсць.

**— А навошта?**

— Мне гэта падабаецца, гэта маё жыццё — жыву, як умею.

**— Давайце ўсё ж такі разам пералічым вашыя заняткі: праграма "Усё нармальна, мама!" на БТ...**

— І яшчэ адна "Усё нармальна, мама!" — з замежнымі кліпамі, ужо зроблена...

**— ... "Ранішняя пошта", аркестр Міхаіла Фінберга, рэкламныя турнэ "Кодака"...**

— ... Вучуся ва універсітэце культуры, на чацвёрты курс перайшла.

**— І як вам там — цяжка, ці маеце якія-небудзь патуранні ў вучобе ў сувязі са сваёй вядомасцю і занятасцю?**

— Цяжка...

### 4. "Яшчэ не хвалююся" (Марына Жолудзева і яе настаўнікі)

**— Трасяцеся?**

— Яшчэ не, — і папраўілася: — Ужо не! (Але абмоўка, напэўна, была не выпадковая. Семнаццацігадовая дзяўчына, што прыехала з Оршы, заваявала на конкурсе пачэснае другое месца — і ўступіла на шлях выпрабавання славай.)

**— Ці гатовыя вы да славы, якая звалілася на вас?**

— Шчыра казаць — не.

**— Што перашкаджала выступаць на конкурсе?**

— Першы нумар па жэрабі, і хваляванне — трошкі.

**— А што дапамагала?**

— "Зорная ростань", што ў мяне за плячыма, і наогул — уся Беларусь!

***Мастацкі кіраўнік "Зорнай ростані", Алег Елісеенкаў, "куратар" Марыны:***

— Я дапамагаў не столькі Марыне, колькі яе настаўнікам, Якаву Пасуднеўскаму і Наталлі Лашкевіч са студыі "Рафлезія". І дапамагаў не толькі я — Марына на ўвесь час падрыхтоўкі атрымала студыю, тэлебачанне аплаціла ўсе яе сцэнічныя гарнітуры і пражыванне ў Мінску. Упершыню на маладую спявачку "працавала" ўся краіна, на ўсіх узроўнях было "зялёнае святло" па любых пытаннях. Аднак я лічу, што не трэба ні перабольшваць перамогі, ні прыходзіць у адчай, калі б не пашанцавала. Да конкурсу трэба ставіцца, як да латарэі, гэта ўсё — працоўныя моманты. Конкурс дапамагае прыцягнуць да выканаўцы ўвагу, а далей — праца. Не за перамогай трэба сюды ехаць, а за адчуваннем духу спаборніцтва і — каб атрымаць задавальненне ад выступлення на добрай канцэртнай пляцоўцы...

***Якаў Пасуднеўскі, Наталля Лашкевіч — кіраўнікі студыі "Рафлезія", г.Орша:***

— Мы працавалі на гэтую перамогу два гады. Марыну ўбачылі на звычайным гарадскім конкурсе, дзе журы ў той час не хацела даваць ёй нават прызавое месца. Заўважылі ў ёй незвычайнае музычнае адчуванне і вакальны слых — у дадатак да музычнага. А потым была праца ў студыі і "Зорная ростань" — вялікі трамплін для юных выканаўцаў.

Напэўна, сапраўды студыя працуе правільна, бо сёлета яшчэ адна з дванаццаці выхаванцаў аршанскай "Рафлезіі" — дзесяцігадовая Алёна Карымава — таксама вызначылася, выйграла ў сваёй намінацыі "Тэлебом". Таму поспех Марыны, напэўна, не выпадковы. Для яе ж зараз галоўнае — прайсці выпрабаванне славай і ... скончыць адзінаццаты клас.

<u>КУТОК ФАНАЎ</u>

# ФІЛІП ЖМАХЕР

***Гэты зграбны, высокі зацягнуты ў чорную скуру юнак два гады таму адвёз на Радзіму, у Югаславію, галоўную ўзнагароду "Славянскага базару — 95". Сёлета ён — госць, удзельнік некалькіх канцэртных праграм, член журы конкурсу маладых выканаўцаў "Славянскага базару — 97".***

**— Філіп, як склалася тваё творчае жыццё пасля перамогі ў Віцебску?**

— Па-першае, я хацеў бы зазначыць, што да Віцебска ў мяне было многа адзнак і ўзнагарод у Югаславіі, зразумела, не такіх значных, як Гран-пры "Славянскага базару". Першую сваю ўзнагароду я атрымаў у 1992-м, пасля гэтага выйграў восем фестываляў у Югаславіі — дакладней, пяць розных фестываляў, у некаторых з якіх браў удзел па два разы. У сваёй краіне я быў таксама найбольш папулярным маладым выканаўцам у 1996 годзе...

Між тым праз паўтара месяца пасля маёй перамогі ў Віцебску вялікія няшчасці адбыліся ў маёй краіне. Пачалася грамадзянская вайна, людзі, што жылі ў Харватыі, аказаліся без прытулку, дзвесце тысяч чалавек былі сагнаны з родных мясцін, яны ніколі цяпер не ўбачаць сваіх родных дамоў. Зразумела, гэта быў вельмі цяжкі перыяд для маёй краіны. Пасля той вялікай радасці, што прынёс мне Віцебск, я быў вымушаны амаль развітацца са сваім прызваннем, я думаў нават аб тым, каб скончыць са спяваннем назаўсёды... Нарэшце, вайна спынілася, я маю надзею, што мір застанецца і надалей, таму я вярнуўся да працы і рыхтую свой першы праект.

Я быў у Віцебску і ў мінулым годзе, Віцебск — гэта горад, які я люблю больш за ўсе іншыя пасля Бялграда, я адчуваю сябе тут як дома. Гран-пры ў Віцебску — гэта была вялікая ўзнагарода для мяне і для маёй краіны, бо адзначала лепшага спевака ва ўсім славянскім свеце. Гэта многа значыць для майго народа. Фестываль у Віцебску, я павінен зазначыць асобна, — вельмі сур'ёзны. Тут збіраюцца моцныя галасы, моцныя выканаўцы. На маю думку, славянскім народам свету патрэбны менавіта такі фестываль. Не толькі Югаславія прайшла праз вялікія змены, амаль усе славянскія краіны прайшлі праз змены і праз выпрабаванні, часамі вельмі цяжкія. Аднак у нас — моцны дух, у нас ёсць сілы, мы, славяне, заўсёды будзем дастаткова дужымі, каб прайсці праз любыя цяжкія часы. Таму гэты фестываль важны для славян. Кажучы пра якасць галасоў, я упэўнены, што яны лепшыя, чым на ўсіх іншых фестывалях, у Сан-Рэма ці на Еўрабачанні. Генетычна славяне — мацнейшыя людзі, мацнейшыя фізічна і таму маюць добрую схільнасць і да спеваў. Магчыма, толькі "чорныя" з Амерыкі могуць спяваць лепш — але мы слухаем неграў пяцьдзесят гадоў, нават сто гадоў — у пэўным сэнсе гэта ўжо старая гісторыя. А славяне яшчэ не выкарысталі свайго шансу паказаць свету, якія мы дужыя.

**— Хто-небудзь запрашаў цябе на выступленні ў Беларусь?**

— Пакуль гэта толькі на стадыі размоў. Што дакладна — я атрымаў запрашэнне на святкаванне 850-годдзя Масквы 5-га верасня. Я з вялікай ахвотай даў на яго згоду. Адчуваю сябе ніякавата з-за таго, што не размаўляю па-руску. Аднак я займаюся, сёлета я разумею амаль усё, што мне кажуць, хутка, магчыма, адважуся загаварыць.



**— У гэтым годзе ты працаваў у Віцебску ў якасці члена журы — якія ўражанні ад гэтага? І ці дапамагаў ты, дарэчы, рыхтавацца да конкурсу сваёй зямлячцы Святлане Слаўкавіч, сёлетняй пераможцы?**

— У журы я працаваў упершыню ў жыцці і рабіў гэта з задавальненнем, было вельмі цікава. Святлане дапамагаў рыхтавацца, я б сказаў, у нязначнай ступені: яна пыталася аб тутэйшых асаблівасцях, раілася пры выбары песень. З тых некалькіх дзесяткаў, што яна спявае, я дапамог выбраць, на маю думку, лепшыя.

Асабіста я аддаю перавагу рокавым спевам, у свой час я спрабаваў спяваць творы розных аўтараў і розных напрамкаў, ад джаза да поп-музыкі. Я не лічу, дарэчы, што рок і поп падзяляе бездань. Для сябе я вырашыў, што лепшае — гэта меладычны рок.

**— Ці ведаеш ты, што амаль усе дзяўчаты Беларусі закахаліся ў цябе з першага твайго з'яўлення ў Віцебску? І ўсім, напэўна, цікава ведаць і пра тваё асабістае жыццё.**

— Магчыма, я сапраўды тут трохі вядомы, я заўважыў сёлета шмат постэраў са сваім партрэтам у горадзе. Што да асабістага жыцця — то я нежанаты, а больш і сказаць няма чаго. Галоўнае для мяне — праца, музыка, сябры. Я б вельмі хацеў мець сяброў, сяброваку і тут, у Віцебску...

З дазволу Філіпа мы друкуем ягоны паштовы адрас. Пісаць лепш на англійскай ці на сербахарвацкай.

FILIP ŽMAHER
SRPSKIH VLADARA 17
11000 BEOGRAD
YUGOSLAVIA

**Матэрыялы паласы падрыхтаваў Ігар КЛОКАЎ**
**Фота аўтара.**

КУЛЬТУРА

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА**
Выдаецца з кастрычніка 1991 года

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**



Рэгістрацыйнае пасведчанне № 418.

**Адрас рэдакцыі:**
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.
Тэлефон: (017) 276-94-66

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.



Фармат А3.
Індэкс 63875.
Агульны наклад 3450.

Падпісана ў свет 31.07.97. у 16.00.
Замова 44 .1

Друкарня выдавецтва "Беларускі Дом друку".
220013, г. Мінск,
пр. Ф. Скарыны, 79.

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**
**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**